1932





# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ



Лён і пяньку—сацыялістычнай прамысловасьці

№ 23

# АБ ВЫНІКАХ XII ПЛЕНУМУ ВККІ

*(Рэзалюцыя агульнага сходу Менскага гарадзкога партактыву).*

Заслухаўшы даклад т. Келера, Менскі гарадзкі партактыў цалкам ухваляе і поўнасьцю далучаецца да ўсіх пастаноў XII пленуму ВККІ.

Ленінскі аналіз міжнароднага становішча даны VI кангрэсам Камінтэрну ў 1928 годзе і ленінскі прагноз у выступленьні т. Сталіна на XVI зьезьдзе УсеКП(б) поўнасьцю зьдзейсьніліся.

Усе прадраканьні II Інтэрнацыяналу аб „пастаяннай стабілізацыі капіталізму", усе тэорыі правых апартуністаў аб „арганізаваным капіталізьме", тэорыі контррэвалюцыйнага трацкізму поўнасьцю праваліліся.

Частковая гнілая, нятрывалая стабілізацыя пасьляваеннага капіталізму прышла к свайму канцу. Наступіў новы пэрыяд магутнага міжнароднага рэвалюцыйнага ўздыму.

Супярэчнасьці сусьветнага капіталізму, якія з кожным днём усё больш узмацняюцца і абвастраюцца, прывялі да далейшага разбурэньня капіталістычнай стабілізацыі, да далейшага паглыбленьня ўсеагульнага крызісу, расьце рэвалюцыйны рух, усё больш шырэйшыя пласты рабочай клясы і працоўных мас уступаюць у разгорнуты фронт рэвалюцыйнага штурму. Клясавая барацьба набывае ўсё больш вострыя формы.

Супроць эксплёатацыі і ўціску, супроць імпэрыялістычнай сыстэмы, супроць нацыянальнага і каляніяльнага прыгнечаньня, супроць галечы, зьбядненьня, голаду, фашысцкага тэрору і падрыхтоўкі новай вайны падымаюцца працоўныя ўсяго капіталістычнага сьвету, усіх народаў, як яшчэ ніколі ў гісторыі чалавецтва.

Мы напярэдадні другога туру пралетарскіх рэвалюцый і войнаў. Некаторыя капіталістычныя краіны (Нямеччына, Польшча) шчыльна падыходзяць да рэвалюцыйнага крызісу, а ў цэнтры нацыянальнай рэвалюцыі ў Кітаі — з нястрыманай сілай расьце і шырыцца тэрыторыя Савецкага Кітаю.

На фоне агульнага развалу капіталізму — яшчэ больш ярка выпукляюцца вялізарныя дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Наперакор прароцтвам апартуністаў, у бязьлітаснай барацьбе з ныцікамі і малаверамі з лягеру правага ўхілу, які найбольш небясьпечны на даным этапе, у барацьбе з тэорыямі і тэорыйкамі контр-рэвалюцыйнага трацкізму аб немагчымасьці пабудовы сацыялізму ў адной краіне,—пралетарыят і ўсе працоўныя масы СССР, пад выпрабаваным кіраўніцтвам т. Сталіна, з посьпехам заканчваюць пяцігодку ў чатыры гады. Краіна Саветаў уступіла ў пэрыяд сацыялізму.

БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пры дапамозе ўсяго Савецкага саюзу, ідзе ў перадавых калёнах гераічных будаўнікоў сацыялізму. Правільнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай палітыкі ператварыла Беларусь з царскай калёніі ў квітнеючую прамыслова-аграрную сацыялістычную рэспубліку.

СССР зьяўляецца апорай міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі і вялізарнейшым рэвалюцыянізіруючым фактарам. СССР — адзіная бацькаўшчына працоўных усяго сьвету.

Сусьветны імпэрыялізм шукае выхаду з крызісу ў новых войнах, у першую чаргу ў контррэвалюцыйнай інтэрвэнцыі супроць Савецкага саюзу.

Супроць СССР, супроць нарастаючага рэвалюцыйнага руху ў капіталістычных краінах мабілізуюцца ўсе сілы міжнароднай буржуазнай контррэвалюцыі.

Ва ўсім гэтым міжнароднаму імпэрыялізму актыўна дапамагаюць сацыял-фашысты з II Інтэрнацыяналу. Сацыял-фашысты—гэта галоўная сацыяльная апора буржуазіі, бруднай дэмагогіяй, „левымі" фразамі імкнецца папярэдзіць надыход рэвалюцыі.

Менскі гарадзкі партактыў адзначае зусім правільную ўстаноўку XII пленуму ВККІ аб задачах брацкіх кампартый за заваяваньне большасьці рабочай клясы, за бальшавіцкую падрыхтоўку і выхаваньне мас, за арганізацыю пераможнай пралетарскай рэвалюцыі, за абарону СССР, за ператварэньне імпэрыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую.

Накіроўваючы свой агонь супроць сацыял-дэмакратыі—галоўнага ворага рэвалюцыі, супроць фашызму, супроць абнаглеўшага трацкізму — гэтага авангарду контр-рэвалюцыйнай буржуазіі, супроць правага апартунізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць левага сэктанцтва і пасыўнасьці, брацкія кампартыі выканаюць сваю ролю арганізатара ўсіх сіл пралетарскай рэвалюцыі.

Гарадзкі партактыў з задавальненьнем адзначае буйнейшыя перамогі і дасягненьні брацкіх кампартый за апошнія часы (посьпехі нямецкай кампартыі на апошніх выбарах у рэйхстаг, узмацненьне і абвастрэньне клясавых баёў у Польшчы, Заходняй Беларусі і Зах. Украіны, посьпехі кітайскай Чырвонай арміі і г. д.).

Усе гэтыя посьпехі зьяўляюцца рэзультатам пасьлядоўнага ажыцьцяўленьня генэральнай ленінскай лініі Камінтэрну.

Гарадзкі партактыў адзначае, што буйныя перамогі на фронце сацыялістычнага нацыянальна-культурнага будаўніцтва Савецкай Беларусі, якія атрыманы рабочай клясы пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ленінскага ЦК на чале з т. Гікало — зьяўляюцца вялізарным фактарам, узмацняючым рэвалюцыйны ўздым на акупаванай польскім імпэрыялізмам Заходняй Беларусі.

Бальшавікі г. Менску абавязваюцца давесьці пастановы і рашэньні XII пленуму ВККІ, якія даюць ясную рэвалюцыйную пэрспэктыву разьвіцьця міжнароднага руху, да сьвядомасьці шырокіх працоўных мас, выхоўваючы іх у духу інтэрнацыяналізму, мабілізуючы на вырашэньне задач другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясклясавага грамадзтва, на ўзмацненьне абараназдольнасьці краіны, на ўзмацненьне базы сусьветнай рэвалюцыі — Савецкага саюзу.

Няхай жыве Камінтэрн — штаб сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі!

Няхай жыве дыктатура пралетарыяту ва ўсім сьвеце!

Палкае бальшавіцкае прывітаньне барацьбітом за сусьветную пралетарскую рэвалюцыю!

Няхай жыве правадыр сусьветнага пралетарыяту т. Сталін!

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

23
1932
СЬНЕЖАНЬ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

ЗЬМЕСТ

Аб выніках XII пленуму ВККІ.

Арганізавана сустрэць вясну 1-га году другой пяцігодкі.

**П. Я.**—Рамонтную кампанію на поўны ход.

**Р-ч**—Раўняцца па Гусарскай ячэйцы.

**К.**—Добра арганізавалі партпаліт-вучобу.

**Казіміраў**—Не перабудавалі сваёй работы.

**Г. Модлін**—шлях да першынства.

**Усебеларускі сьпіс гонару змагароў за высокі ўраджай.**

**Зьмітро Рыгаровіч**—Пяскі даюць ураджай.

**Астрэйка**—Пераможнымі крокамі.

**Гарэлікаў і Рабышка**—Кожнаму калгасу і саўгасу гісторыю палёў.

**Кандакоў**—Правільна захоўвайце гной—гэта будучы ўраджай.

**Н. Б.**—За павышэньне ўраджайнасьці ільну.

**Сяргееў**—За раўнамернае атрыманьне малака ў гаспадарцы на працягу году, за раўнамерны адёл.

**Гурвіч**—Рацыянальна выкарыстаць брагу.

**Сыгранская**—Як захаваць гародніну на зіму.

Ацяпляйце бурты з бульбай.

**Міколенка**—Супроць апартуністычнай блытаніны ў пытаньнях спэцыялізацыі сацыялістычнага земляробства.



## Арганізавана сустрэць вясну першага году другой пяцігодкі

### Усю падрыхтоўчую работу да веснавой сяўбы 1933 году партыйныя, савецкія і камсамольскія арганізацыі павінны праводзіць пад знакам разгорнутай барацьбы за высокі сацыялістычны ўраджай

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) і Савет Народных Камісараў СССР у сваёй пастанове ад 29 верасьня гэтага году „аб мерапрыемствах па павышэньні ўраджайнасьці“ ўказалі, што „наступіў час, калі ад росту гаспадаркі ўшыркі, шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, неабходна павярнуць да барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці, як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця“.

Падрыхтоўка і правядзеньне пасеўнай кампаніі 1933 года павінна праходзіць пад знакам ажыцьцяўленьня гэтай пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР, пад знакам барацьбы за высокі сацыялістычны ўраджай. Таму, усе пляны падрыхтоўкі і правядзеньня надыходзячай веснавой пасеўнай кампаніі павінны ахапіць усе пытаньні, пастаўленыя ЦК і СНК. Кожны саўгас і калгас, выходзячы з канкрэтных сваіх умоў, павінен пабудаваць плян правядзеньня веснавой пасеўкампаніі так, каб з найбольшым посьпехам, па-праўднаму разгарнуць барацьбу за ўраджай.

ЦК і СНК прапанавалі „ўстанавіць плян яравой сяўбы к вясьне 1933 года ў разьмеры 97 з паловаю мільёнаў гэктар (на мільён гэктар больш гэтага году) з тым, каб плошчы пад пшаніцай, аўсом і ячменем вырасьлі на 2 з паловаю мільёны гэктар, з якіх 1 мільён гэктар, за кошт агульнага прыросту плошчаў у 1933 годзе, а 1 з паловаю мільёна гэктар—за кошт выцясьненьня другіх, менш важных культур“.

За ажыцьцяўленьне гэтай дырэктывы павінен змагацца кожны саўгас і калгас са ўсёй бальшавіцкай настойлівасьцю. Пры складаньні плянаў правядзеньня веснавой пасеўкампаніі трэба прадугледзіць павялічэньне плошчы пад пшаніцу, авёс і ячмень.

Пастанова ЦК і СНК абавязвае: „на працягу 1933 году ўвесьці ва ўсіх саўгасах і калгасах севазварот, як адзін з лепшых сродкаў павышэньня ўраджайнасьці з тым, каб увядзеньне севазвароту было зьвязана з адпаведным пашырэньнем у вядомых галінах і краях плошчаў пад зернавымі калгасавымі культурамі“.

Ачыстка насеннага матар'ялу і стварэньне насенных фондаў—галоўнейшае ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Гэтую работу трэба распачаць зараз-жа. Арганізаваць работу па абмену сартавога насеньня. Саўгасныя і калгасныя палі павінны быць засеяны чыстым, дабраякасным насеньнем. За гэтае павінны ўпарта змагацца кожны калгас і саўгас, кожная вытворчая брыгада.

У радзе раёнаў мы мелі ў гэтым годзе безабразныя адносіны да завозу мінэральных угнаеньняў. Было шмат выпадкаў, калі калгасы чакалі мінэральнага ўгнаеньня месяцамі і не атрымоўвалі яго, у той час, як па другіх раёнах гэтае ўгнаеньне валялася на станцыях пад адкрытым небам—гінула тонамі. У надыходзячую веснавую пасеўную кампанію трэба прыняць рашучыя меры к плянаваму завозу мінэральных угнаеньняў, зімою да наступленьня веснавой распуціцы.

У некаторых мясцох у мінулую вясну мы мелі і такія выпадкі, калі пад уплывам кулацкай агітацыі, адсталая частка калгаснікаў не з ахвотай брала мінэральныя ўгнаеньні, а то і зусім адмаўлялася. Партыйныя, савецкія і камсамольскія арганізацыі вёскі павінны павесьці самую шырокую масава-растлумачальную работу сярод калгаснікаў аб поўным і рацыянальным выкарыстаньні ўсіх відаў угнаеньняў для павышэньня сацыялістычнага ўраджаю.

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) і Саўнарком СССР прапанавалі „перабудаваць работу машына-трактарных станцый так, каб задачы барацьбы за ўраджайнасьць была падначалена бягучая агра-вытворчая работа МТС, маючы на ўвазе, што машына-трактарныя станцыі павінны стаць кіраўнікамі калгасаў ня толькі ў галіне дапасаваньня трактарнай тэхнікі, але і ў галіне агранаміі". Зусім зразумела, што ў падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой пасеўкампаніі 1933 году МТС павінны адыграць выключную ролю. Аднак, з самага пачатку ўжо падрыхтоўкі да вясны МТС узяты вельмі павольныя тэмпы. Рамонтная кампанія, якая зьяўляецца аднэй з галоўнейшых сустаўных частак падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, павінна была пачацца з 15 лістапада, але і зараз яшчэ рамонт трактароў і сельскагаспадарчых машын фактычна не распачаты. Машына-трактарныя майстэрні ня маюць яшчэ належных запасных частак і рамонтнага матар'ялу.

Рамонтнай кампаніі трэба надаць бальшавіцкія тэмпы з тым, каб да 15 сакавіка 1933 г. увесь трактарны парк і ўсе сельскагаспадарчыя машыны былі гатовымі выступіць у поле.

Адна з важнейшых умоў пасьпяховай барацьбы за высокі сацыялістычны ўраджай—гэта барацьба за максымальна скарочаныя тэрміны сяўбы, якасьць апрацоўкі глебы. Таму да складаньня вытворча-фінансавых плянаў у саўгасах, калгасах і МТС трэба прыступіць зараз-жа.

Вытворчая брыгада адказвае за падрыхтоўку і правядзеньне веснавой сяўбы, за павышэньне ўраджайнасьці. Кожная брыгада павінна мець дасканалы плян веснавых работ, у якім павінны быць прадугледжаны ўсе агратэхнічныя мерапрыемствы, якія трэба правесьці ў час падрыхтоўкі і правядзеньня сяўбы.

Веснавая пасеўная кампанія 1933 году—першага году другой пяцігодкі мае выключнае гаспадарча-палітычнае значэньне. Посьпех веснавой сяўбы будзе залежыць ад таго, наколькі мы падрыхтуемся да яе. Таму падрыхтоўчай рабоце павінна быць зьвернута выключная ўвага. Трэба арганізаваць справу так, каб кожную гадзіну ў зімовы час як мага поўнасцю выкарыстаць па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. На пасьпяховую падрыхтоўку да вясны трэба мабілізаваць масы калгаснікаў, рабочых саўгасаў і МТС, а таксама беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў.

# Рамонтную кампанію—на поўны ход

Своечасовае правядзеньне рамонтнай кампаніі ў саўгасах, МТС, калгасах—забясьпечыць посьпех у правядзеньні 4-й бальшавіцкай сяўбы. Таму, рамонтную кампанію, не адкладваючы на доўга неабходна распачынаць зараз-жа і праводзіць яе бальшавіцкімі тэмпамі. Такая задача стаіць перад саўгасамі і МТС. Аднак, амаль усе бяз выключэньня МТС БССР зусім дрэнна падрыхтаваліся і яшчэ не распачыналі рамонт трактароў і сельгасмашын, якія неабходны для правядзеньня сяўбы.

### Пляны ёсьць, а работа стаіць

Пляны рамотнай кампаніі МТС складзены з вялікім спазьненьнем. Беладдзяленьне Трактарацэнтру спакойна чакала. І толькі пасьля ўказаньня прэзыдыуму ЦП саюзу рабочых МТС і батрацтва Трактарацэнтр „пасьпяшаўся" з складаньнем плянаў рамонту трактароў, даў заяўку на кваліфікаваную рабочую сілу, аднак далей гэтага не пайшоў.

15-га лістапада павінна была рамонтная кампанія распачацца і цалкам закончана 15-га сакавіка 1933 г. За гэты тэрмін Машына-Трактарным майстэрням (МТМ) патрэбна адрамантаваць для МТС трактароў „Фардзон-Пуцілавец" — 904, „Інтэрнацыянал 10- 20"—139, „ХТЗ" — 384, „Джондзіраў"—25 і „Манархаў"—22. Усяго падлягае рамонту 1474 трактары, з якіх патрабуюць капітальнага рамонту—1315 і малага рамонту—169.

Калгасам, якія яшчэ ня абслугоўваюцца МТС, але прымацаваны па рамонту да іх, патрэбна адрамантаваць 115 трактароў.

Такі плян рамонту трактароў, які павінен быць абавязкова поўнасцю і ў тэрмін выканан.

### Што пагражае зрывам?

Машына-Трактарныя Майстэрні і Беладдзяленьні Трактарацэнтру дрэнна падрыхтаваліся да рамонтнай кампаніі, што ў значнай меры будзе тармазіць пасьпяховае правядзеньне яе. Непадрыхтавана неабходная колькасьць для правядзеньня рамонту трактароў запасных частак і рамонтных матар'ялаў.

Асабліва адчуваецца недахоп у запасных частках. Так, для бесьперабойнай работы па рамонту неабходна 8024 шатунных балтоў і 32.344 поршнявых пальцаў, а іх у наяўнасьці МТМ у сучасны момант ня маюць.

Ня лепшае становішча і з рамонтнымі матар'яламі. Не хапае 2718 *кг* бабіту і 30 *кг* шарлака. Трактарацэнтр даў заяўку на недастаючыя запасныя часткі і рамонтны матар'ял і на гэтым супакоіўся.

Асобныя МТМ, маючы некаторую колькасьць частак і матар'ялаў, неэканомна скарыстоўваюць іх, выдаткоўваючы на розны дробны рамонт, на што магчыма было скарыстаць іншыя рамонтныя матар'ялы; запчасткі і матар'ял знаходзіцца ў безгаспадарчым становішчы, раскідваецца. Такія адносіны да скарыстаньня запасных частак і рамонтнага матар'ялу зьяўляюцца злачынствам, нядбайнасьцю.

Ня ўсе МТМ падрыхтаваліся да рамонту. У некаторых яшчэ ня скончана абсталяваньне, не хапае станкоў і іншых машын, не мэханізавана работа.

Для МТМ патрэбна 9 трактарных станкоў, не хапае шмат вымеральных прылад (мікромэтраў для вымярэньня поршняў) і электрычных 3 рухавікі, якія неабходны для мэханізацыі работы ў майстэрнях Рагачоўскай МТС, (Лепельскай і Гарадоцкай).

Нічога ня робіцца і ў справе забесьпячэньня МТМ кваліфікаванай рабочай сілай.

### Не забываць пра сельгасмашыны

Пляны рамонту сельгасмашын толькі яшчэ паступаюць у Трактарацэнтр. Тут мы маем у падрыхтоўчай рабоце поўны зрыў. І асноўная віна ў гэтым—няўменьне падрыхтоўку і правядзеньне рамотнай кампаніі трактароў спалучыць з рамонтам сельгасмашын і інвэнтару. 12 МТС ня склалі яшчэ плянаў рамонту сельгасмашын.

### Рамонт—на поўны ход

Становішча з падрыхтоўкай і правядзеньнем рамонтнай кампаніі па МТС, як мы бачым,—нездавальняючае. І гэта нягледзячы на тое, што кіруючымі арганізацыямі органамі былі своячасова дадзены дырэктывы і ўказаньні МТС па гэтым пытаньні.

Недахоп запасных частак, рамонтнага матар'ялу, неабсталяванасьць майстэрань, адсутнасьць мэханізацыі работы ў Рагачэўскай, Лепельскай і Гарадоцкай МТМ, недахоп значнай колькасьці кваліфікаванай рабочай сілы (такароў), нядбайнасьць да сельгасмашын і інвэнтару,—усё гэта пагражае зрывам пасьпяховага правядзеньня рамонтнай кампаніі.

Трэба зараз-жа адвесьці пагрозу зрыва рамонтнай кампаніі.

Задача партыйных, прафсаюзных і гаспадарчых арганізацый МТС—безадкладна пераключыцца на бальшавіцкія тэмпы работы ў правядзеньні рамонту трактароў і сельгасмашын.

Пытаньне рамонтнай кампаніі патрэбна шырока абгаварыць на сходах, нарадах і непасрэдна ў вытворчых брыгадах МТС, разгарнуць сярод рабочых і спэцыялістаў сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. Перавесьці ўсе работы па рамонце на простую неабмежаваную зьдзельшчыну, арганізаваць рамонтныя гасразьліковыя брыгады.

Патрэбна ажывіць работу бюро рацыяналізацыі і вынаходцтва (БРЫЗ) у МТС, арганізаваць збор рацыяналізатарскіх прапаноў і безадкладнае іх выкананьне.

Рабочыя калектывы МТС і МТМ павінны праявіць максымум энэргіі і адданасьці ў мэтах забесьпячэньня пасьпяховага правядзеньня рамонтнай кампаніі.

**П. Я.**



На міжраённым савецкім базары ў г. Менску.

## Ператворым МТС у сапраўдных арганізатараў калгаснай вытворчасьці, у цэнтр барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці сацыялістычных палёў

# АРГАНІЗАВАЦЬ АКТЫЎНАСЬЦЬ КАЛГАСНЫХ МАС

## на пасьпяховае выкананьне ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній—БАЯВАЯ ЗАДАЧА ПАРТЫЙНЫХ ЯЧЭЕК

**У ячэек Гусарскага сельсавету і камуны „Чырвоны артылерыст"—вучыцца як трэба спалучаць палітычную прапаганду з гаспадарчай работай калгасаў**

## Раўняцца па Гусарскай ячэйцы

*(Клімавіцкі раён)*

Партыйная ячэйка Гусарскага сельсавету складаецца з 7 членаў і 13 кандыдатаў. Па наладжваньні працы, па правядзеньні ў жыцьцё ўсіх пастаноў партыі і ўраду—ячэйка лічыцца адной з лепшых у раёне. У поле яе дзейнасьці ўваходзіць 6 калгасаў. У кожным калгасе ёсьць партыйцы і кандыдаты, якія працуюць непасрэдна на полі, на фэрме, у брыгадзе.

Так, у Канахоўцы (фэрма калгасу „Праўда") ёсьць чатыры паляводчых брыгады, на чале якіх стаяць кандыдаты партыі. Такое-ж становішча і ў Гусарцы, дзе ёсьць тры партыйцы, два з якіх працуюць непасрэдна ў паляводчых брыгадах.

Усе камуністы—ударнікі, расстаўлены па асобных вучастках работы і адказваюць за іх. Сваім асабістым прыкладам яны вядуць за сабою астатнюю масу калгасьнікаў. За ўдарную работу шмат прэміявана.

Вось імёны лепшых—**Іванекін, Церашкоў, Саўчанка Пілін, Перамота, Сідараў** і інш. У кожнага з іх у сярэднім выходзіць па 40 працадзён на месяц.

Пры ячэйцы працуюць дзьве палітшколы—6-цімесячная і 3-хмесячная, з ахопам абоімі каля 50 асоб. Школы наведваюцца беспартыйнымі калгасьнікамі і аднаасобнікамі.

Добра наладжана ў сельсавеце праца насьценнага нізавога друку. Забясьпечаныя штодзённым апэрацыйным кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі – 29 брыгадных і 6 агульна-калгасных насьценгазэт пабальшавіцку змагаюцца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

Насьценная газэта сельсавету „Шлях да сацыялізму" ня дрэнна змагаецца за падвышэньне ўраджайнасьці. У № 36 ад 26 кастрычніка газэта пісала.

> „З боку РКС і МТС была дадзена дырэктыва аб тым, каб пад зяблевую ўспашку сеялі вапну. Па калгасу „Праўда", ня гледзячы на тое, што старшыня яго т. Ісачэнка паведаміў кожнаму аддзяленьню, але загадчыкі вытворчых вучасткаў і ня думаюць сеяць вапну. Такое-ж самае становішча і ў калгасе „Пралетары" і ў „Сац. Земляробстве"..."

І зусім слушна рэдакцыя патрабуе ад загадчыкаў вытворчых вучасткаў неадкладна прыступіць да пасеву вапны пад зяб, што было і зроблена.

З дня абвяшчэньня конкурсу „Праўды", партячэйкай, пры ўдзеле рэдакцыі райгазэты „Камуна" праведзена 6 рабселькораўскіх зьлётаў. За ўдарную работу нізавы друк атрымаў прэмію 500 руб., заняўшы другое месца па конкурсу ў БССР.

Пастанова партыі і ўраду аб узьняцьці ўраджайнасьці падхоплена насьценкамі і дэталёва абгаворана на занятках палітшкол, на калгасных і брыгадных сходах. Вынесена спэцыяльная пастанова:— кожнаму калгасу да сьнегу сабраць і вывезьці ня менш 500 вазоў шыгальля і перагною. На праўленьнях калгасаў, пры шырокім удзеле калгасьнікаў ужо абмеркаваны пытаньні пераходу на севазварот.

Праца партыйнай ячэйкі Гусарскага сельсавету павінна стаць прыкладам астатнім ячэйкам Клімаўшчыны—як трэба сапраўды па-бальшавіцку змагацца за сацыялістычнае перавыхаваньне калгасьнікаў, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, за павышэньне ўраджайнасьці сацыялістычных палёў.

**З. Р—ч.**

## Добра арганізавалі партпалітвучобу

*(Полацкі раён)*

Партвучоба і камсамольская палітвучоба ў камуне „Чырвоны Артылерыст" распачата 1-га кастрычніка.

У партсетку ўцягнута 45 чалавек, з іх 20 беспартыйных. Працуе гурток і кандыдацкая школа. За гэты час ня было ніводнага зрыву занятак. Наведваньне добрае.

У чым-жа сакрэт посьпехаў партпалітвучобы ў партыйнай і камсамольскай ячэйках камуны „Чырвоны Артылерыст"?

Парт'ячэйка падабрала добрых прапагандыстаў з самых лепшых і моцных камуністаў. Яны аўтарытэтны. Іх паважаюць. Камуністы, камсамольцы і беспартыйныя камунары з ахвотай ідуць на заняткі таму, што самі бачуць, што ў падрыхтаванага і прыкладнага камуніста ёсьць чаму навучыцца.

Прапагандысты для работы над сабой арганізавалі пропсэмінар, якім кіруе сакратар ячэйкі.

Прапрацаваны ў партсетцы апошнія пастановы партыі і ўраду аб мясазагатоўках, ураджайнасьці, аб ахове сацыялістычнай маёмасьці. Распрацаваны і рашэньні верасьнёўскага пленуму ЦК УсеКП(б). Зараз прыступілі да распрацоўкі праграмы УсеКП(б).

Правільная пастаноўка партпалітвучобы забясьпечвае і посьпех гаспадарча-палітычнай работы ячэйкі. Пасеўная ў камуне скончана своечасова. Загатоўкі мяса, бульбы, жыта, ячменю і капусты поўнасьцю выкананы. Ячэйка здолела спалучыць палітычную прапаганду з гаспадарчай работай камуны.

**К.**

# Не перабудавалі сваёй работы

(*Уваравіцкі раён*)

Партыйная ячэйка калгасу „Энгельса“ налічвае да 30 членаў і кандыдатаў партыі. На калгаснай вытворчасьці непасрэдна працуе 26 чалавек. Але праз доўгі час калгас ня выходзіць з паласы прарываў. Сарван плян сіласаваньня, скарочаны на 40 *га* засеў азімага кліну, марудна праходзяць загатоўчыя кампаніі, зяблівае ворыва і інш.

А ўсё гэта як вынік адсутнасьці масавай працы сярод калгасьнікаў. Камуністы калгасу „Энгельса“ ня кіруюць загатоўкамі ў сваім Лапіцкім сельсавеце і апошні цягнецца ў хвасьце па раёне.

У радзе калгасаў, як „Будзённы“, „Чырвоны Шлях“ і іншых яшчэ дагэтуль не разгорнута партыйная вучоба. Нягледзячы на шматразовыя паказаньні РК КП(б)Б, дагэтуль ня было праведзена ніводнага партзанятку. Сакратары ніяк ня могуць знайсьці дня і часу для заняткаў.

Некаторыя камуністы, камсамольцы і беспартыйныя ў сваёй большасьці палітычна малапісьменныя. Слаба разьбіраюцца ў апошніх дырэктывах партыі і ўраду, ня чытаюць газэт, не займаюцца самаадукацыяй.

Партячэйка калгасу „Будзённы“, Крыўскага сельсавету налічвае 16 чалавек. (Ёсьць і ячэйка ЛКСМБ 26 камсамольцаў), але ніякай працы сярод іх не праводзіцца. Сакратар партячэйкі Федарцоў мала цікавіцца працай парт‘ячэйкі, ён больш заняты сваёй працай як дырэктар ільназаводу, чым справамі партячэйкі.

Уваравіцкі райком КП(б)Б павінен прыняць рашучыя меры к перабудове работы партыйных ячэек калгасу імя „Энгельса“ і Будзённага.

**А. Казіміраў.**

# Шлях да пяршынства

(*Магілеўскі раён*)

Калі жнейкі былі на збожжавых палёх, калі складаліся снапы і беражліва зьбіраўся кожны выпадкова апаўшы колас, калгас „Новае Жыцьцё“ Машанацкага сельсавету разгарнуў малацьбу.

Праўленьне калгасу правільна зразумела, што посьпехаў трэба дабіцца ва ўмелай расстаноўцы сіл, у правільным спалучэньні ўсіх відаў сельскагаспадарчых работ.

Як толькі разгарнулі малацьбу і пачалі выдачу натуральных авансаў, праўленьне па сур‘ёзнаму ўзялася за вывазку хлеба на ссыпны пункт.

Атрыманы гадавы плян хлебазагатовак быў асснован на рэальным вывучэньні магчымасьцяй гэтага калгасу, з улікам яго ўраджайнасьці, неабходнасьці насеньня і інш.

Плян загатовак калгасу—8—7 цэнтн. хлеба, 4 цэнтн. бульбы, пасьля абмеркаваньня праўленьнем быў вынесен на агульны сход калгасьнікаў.

Старшыня калгасу т. Хруцкі—дакладвае сходу:

— Плян рэальны, мы яго павінны датэрмінова выканаць.

Калгасьнікі абмеркавалі, падлічвалі свае магчымасьці і пастанавілі датэрмінова выканаць плян. Тут-жа на сходзе ў дапамогу праўленьню для хутчэйшага выкананьня пляну была абрана камісія садзейнічаньня хлебазагатоўкам.

На адным з пасяджэньняў праўленьнем калгасу было вынесена рашэньне аб вылучэньні спэцыяльных людзей выключна для перавозкі хлеба.

Падрыхтавалі тару і адразу з-пад малацілкі насыпалі ў мяшкі чыстае і сухое збожжа і вывезьлі на загатоўчы пункт.

Калгасьнікі імкнуліся як мага хутчэй закончыць здачу. Ішло спаборніцтва з другімі калгасамі гэтага сельсавету на хутчэйшае выкананьне пляну.

Вечарам на таку, недалёка ад канцылярыі праўленьня, зьбіраўся калгасны актыў. Падлічвалі квіткі аб здачы хлеба. Лепшыя калгасьнікі заяўлялі:

— Работу не аслабляць, закончыць вываз да наступленьня дажджэй, да паяўленьня гразі, узяць пяршынство.

І зноў, назаўтра, як толькі пачынала віднець, ток ажыўляўся ад калгаснага гоману. Адпачыўшых коняй запрагалі ў прывод, малацілка зноў застукала. Тут-жа веялі збожжа, сартыравалі і насыпалі ў мяшкі.

Так працавалі да 15 кастрычніка. У гэты дзень калгас „Новае Жыцьцё“ рапартаваў аб поўным выкананьні пляну збожжазагатовак.

**Геця Модлін**



Падрыхтоўка збожжа для здачы (продажы) дзяржаве ў калгасе „Верны Шлях“.

# Усебеларускі сьпіс гонару змагароў за высокі ўраджай

(*Працяг. Гл. № 22 часопісі „Шляхі Калектывізацыі*).

Калгасы, дзе правільна была арганізавана работа, па-сапраўднаму змагаліся за сваячасовую і добраякасную апрацоўку глебы, сваячасова і добраякасным насеньнем сеялі, ужылі агратэхнічныя мерапрыемствы,—дамагліся высокага ўраджаю. Сёньня ў сьпіс гонару мы заносім наступныя калгасы:

7) **Калгас „Чырвоны кавалерыст“**, Капыльскага раёну, на аснове правядзеньня агранамічных мерапрыемстваў дасягнуў значнага павышэньня ўраджайнасьці ў гэтым годзе. З гэктара сабрана 11,5 *цнт* жыта супроць таго, як аднаасобнікі суседніх вёсак—8 *цнт* з *га*. Аўсу калгас узяў 10 *цнт* з *га*, а аднаасобнікі 7 *цнт*.

Сьвяткуючы 15-годзьдзе Кастрычніка, калгас „Чырвоны Кавалерыст“ узяў на сябе сацыялістычныя абавязацельствы—павысіць ураджайнасьць у 1933 г. па жыту да 12,5 *цнт* з *га*, па аўсу да 11 *цнт* з *га* і г. д. і выклікаў на сацспаборніцтва суседні калгас „Чырвоная Зорка“.

8) **Калгас „Колас“**, Магілеўскага раёну ў мінулым годзе браў з гэктара 6—7 *цнт* жыта, а ў гэтым годзе 10 *цнт*; ячменю ў мінулым годзе—9, а сёлета 14 *цнт* з гэктара. Гэтых посьпехаў „Каласоўцы“ дабіліся дзякуючы паляпшэньню якасьці апрацоўкі глебы, раньніх тэрмінаў сяўбы, а таксама ворыва пад зяб.

9) **Калгас імя „Дню ўраджаю“** Тураўскага раёну атрымаў у гэтым годзе з 1 *га* азімай пшаніцы 8,5 *цнт*, жыта—11 *цнт*, аўсу—13,13 *цнт*, ячменю—12,28 *цнт*.

10) **Калгас „Сьлянец“** Тураўскага раёну атрымаў з 1 *га* пшаніцы 9,5 *цнт*, жыта—9,5 *цнт*, аўсу—9 *цнт*, ячменю—9,5 *цнт*, проса—18 *цнт*.

11) **Калгас „Іскра“** Плешчаніцкага раёну, у мінулым годзе з 1 *га* атрымаў 8 *цнт* пшаніцы, у гэтым годзе, ужыўшы агратэхнічныя мерапрыемствы, з 1 *га* атрымаў 10 *цнт*.

12) **Калгас „Молатава“** Камянецкага сельсавету, Вузьдзенскага раёну, сабраў з *га* жыта 9 *цнт*.

13) **Калгас „Новае жыцьцё“**, Стальбоўскага сельсавету, Вузьдзенскага раёну, атрымаў з *га* 10 *цнт* ячменю. Сярэдні ўраджай па Вузьдзенскім раёне з 1 *га* складае: жыта 7,8 *цнт*, пшаніцы—7,2 *цнт*, аўса—7,3 *цнт*, ячменю—7,7 *цнт*, бульбы—100 *цнт*. Сярэдняя ўраджайнасьць па калгасным сэктары: жыта 8 *цнт*, пшаніцы—7,5 *цнт*, аўса—7,5 *цнт*, ячменю—8 *цнт* і бульбы—100 *цнт*.

14) **Калгас „Ленінскі шлях“**, Дрысенскага раёну, ужыўшы мінэральныя ўгнаеньні, раньнюю сяўбу, якая ў асноўным праведзена па зябліву, праведзена двухразовая і трохразовая праполка ільну. Усё гэта дало магчымасьць павялічыць ураджай. Ільнанасеньне ў 1931 годзе калгас з *га* сабраў 1,7 *цнт*, у 1932 годзе з *га* калгас атрымаў 2,75 *цнт* пры сярэдняй ураджайнасьці па калгасах раёну ў 2 *цнт*. Ільнатрасты замест 4,1 *цнт* з *га* ў мінулым годзе, сёлета атрымалі 10 *цнт*, пры сярэдняй ураджайнасьці ў раёне 9 *цнт*, бульбы сабрана 100 *цнт* супроць 84 у мінулым годзе, пры сярэдняй ураджайнасьці па калгасах раёну ў 85 *цнт*. Ячменю летась атрымалі 2,71 *цнт* з *га*, у гэтым годзе 8 цэнтнераў, пры сярэдняй ураджайнасьці па раёне 5 цэнтнераў.

15) **Калгас „За ўраджай“** Асіпавіцкага раёну сабраў з 1 *га* 187 *цнт*. бульбы.

(*Працяг у наступным нумары*).



Адзін з калгасных фургонаў з мясам на міжраённым базары ў г. Менску.

# Пяскі даюць ураджай

*(Нарыс)*

У Кузьмы Чорнага ў ягонай п'есе „Лета" стары калгасьнік—яўрэй Есель апавядае: „...Абганяю гэта бульбу, а ён ідзе з гэтым Якубоўскім, што за дзяка быў. А ў мяне сашнік прыгнуўся, а я ня маю яшчэ практыкі адагнуць назад. Як гэта, кажу, адагнуць? А ён мне—а ты-ж калгасьньнік, кажа, павінен умець. Вы-ж усё павінны ведаць. Носам, кажа падзяўбі, або лбом пастукай, дык і адагнецца. Каб ты лбом у сьцену стукаў!"

Блізка пра тое самае можа расказаць кожны калгасьнік нацыянальнага калгасу „Карпачы" Клімавіцкага раёну.

У XV гадавіну Кастрычніка карпачоўцы сьвяткавалі і XIV гадавіну нараджэньня свайго калгасу. „Карпачы"—першая ластаўка калгаснай вясны на Клімаўшчыне.

У васемнаццатым годзе на зямлі панскага прыганятага, на зямлі, якая ўлетку, калі ступаеш па ёй басанож, абпальвае ногі—на супесях і пяскох—нарашылі жыць калектыўна дзесяць яўрэйскіх сем'яў з ваколічных вёсак.

— Наладзілі камуну,—апавядае старшыня калгасу,—і ня ведалі, і не разумелі, што гэта такое...

Але людзі праглі новага. Апутаныя вечнай нэндзай саматужнікі, балаголы і былыя дробныя гандляры шукалі выйсьця з галечы і нястачы. Але дзякуючы партыйнай арганізацыі, працоўныя яўрэі натрапілі на сьцежку, якая вывела іх на прасторны шлях, па якім ідуць яны зараз, бяручы перамогу за перамогай. Арганізавалася спачатку таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі, якое праіснавала да 1926 году.

Зараз Карпачы—калгас. Увесь інвэнтар, уся цягавая сіла, усё пагалоўе кароў і сьвіней абагулена.

Але гарачыя і бясплодныя былі супесі. Яшчэ гарачэй і ярасьней былі кулацкія плёткі, зьдзекі, насьмешкі.

— Якія з вас земляробы? Нічога ня выйдзе з вашай працы.

Але страшным было галоднае мінулае, і яснай была наперадзе будучыня. Не зважаючы на зьмяінае сыканьне, карпачоўцы працавалі ад цямна і да цямна. Маючы ўсяго 6 кароў, ім даводзілася вазіць гной за дзесяць кілёмэтраў з Клімавіч, каб здабрыць на ўраджай пражорлівыя супесі і пяскі, якія паглыналі і тоны попелу, і сотні вазоў шыгальля і сьмецьця—і штогод радасьней і вышэй узьнімалася рунь на карпачоўскіх палетках. Гады, калі пасеяныя 12 цэнтнераў жыта на *га* давалі... 9 *цнт* ураджаю—пачалі адыходзіць.

1926 год быў пераломным у гісторыі калгасу. У гэтым годзе зямля ўпяршыню дала каля 20 *цнт* жыта з *га*. Павялічылася пагалоўе жывёлы.

---

XV гадавіне Кастрычніка і XIV гадавіне свайго існаваньня „Карпачы" рапартавалі:

— выкананьнем гадовага пляну збожжа і бульбазагатовак;

— пасьпяховым сканчэньнем уборкі і сяўбы азімых. Барацьба за ўборку бяз страт ставілася ў цэнтры ўвагі;

— сканчэньнем малацьбы. Выданы збожжавыя авансы выключна па працаднёх. „Хто больш і лепш працуе—той больш і атрымлівае". Гэтага прынцыпу строга прытрымліваліся карпачоўцы.

— Гадавы плян здачы малочнай прадукцыі выканан на 100 проц. і плян мясазагатовак—на 108 проц.

— Пабудаваны кароўнік на 60 галоў.

— Пабудаваны жыльлёвы дом для калгасьнікаў.

— Плян мабілізацыі сродкаў па падпісцы на новую пазыку імя „4-га завяршаючага" выканан на 120 проц.; пазыка выплачана поўнасьцю.

І самае галоўнае, чым ганарыцца ўся Клімаўшчына—XV гадавіну свайго існаваньня карпачоўцы сустрэлі падвышаным стабільным ураджаем. **У гэтым годзе яны атрымалі па 12 цэнтнераў з** *га* **жыта, ячменю—10** *цнт*, **пшаніцы—10** *цнт*, **аўсу—8** *цнт* **і бульбы—100** *цнт*.

---

Як-жа дасягнулі карпачоўцы такога высокага ўраджаю на пяшчанай глебе, калі побач, у Каханоўцы сяляне надта задаволены 8 цэнтнэрамі з *га* жыта?

— Вы бачылі, якая добрая рунь—азіміна наша—узьнімаецца абапал дарогі?—адказвае пытаньнем старшыня калгасу т. Каган.

Маленькі пакойчык—яго „габінэт" — завалены камплектамі „Техники социалистического земледелия", агранамічнымі падручнікамі, рознымі выразкамі з газэт...

12 год Каган стаіць на пасадзе старшыні калгасу. 12 год адданае працы, самаадукацыі і чулых адносін да зямлі. Ён ведае нораў кожнага поля, ведае якое ўгнаеньне, калі і на якую глебу трэба ўнасіць. Ён уважліва сочыць за апошнімі навінамі агранаміі, і практыку перадавікоў сацыялістычнага земляробства пераносіць на свае палі. Тоны попелу з суседніх смалакурань марна гінулі пад даждамі і вятрамі. Ініцыятыва Кагана прымусіла служыць попел на карысьць падвышэньню ўраджайнасьці. Па яго-ж ініцыятыве штогод вывозіцца на палі з ваколічных лясоў па 500 і болей вазоў шыгальля і перагною.

Так скарыстоўваюцца мясцовыя рэсурсы. Пасеў збожжавых вытвараецца выключна сявяркай.

— Сявярка кладзе зерні на такую глыбіню, што яны не баяцца мароза,—гаворыць т. Каган,—і сеецца выключна сартавое і гатунковае насеньне.

І ня дзіва, што ў гэтым годзе карпачоўскае жыта адно з лепшых на ўвесь раён. Дзьве паляводчыя брыгады калгасу, пад кіраўніцтвам парт'ячэйкі Гусарскага сельсавету, вышлі пераможцамі на сваіх сацыялістычных вучастках. Лепшыя ўдарнікі і ўдарніцы ўборачнай і пасеўнай, лепшыя змагары за падвышэньне ўраджайнасьці—прэміяваны. Вось іх імёны: **Левітан Я., Ваксман Х., Злотнікаў І., Каган І., Левітан Р., Каган С., Кац Р. і Злотнікава Р.**

Па іх павінны раўняцца ўсе астатнія калгасьнікі „Карпачоў", па „Карпачох"—усе калгасы Клімаўшчыны.

— А ўлетку вы ня ўстоіце басанож на нашай зямлі. Такія-ж гарачыя гэтыя супесі, трасца на іх!..—гаворыць Каган.

... І яны, гэтыя супесі пераможаны гарачай, адданай працай дружнага калгаснага калектыву, тонамі попелу, тысячамі вазоў шыгальля і гною, штогодным руплівым ворывам пад зяб.

**Зьмітро Рыгаровіч.**

# ПЕРАМОЖНЫМІ КРОКАМІ

*(Дзяржынскі раён)*

Каля гумнаў калгасу „Ударнік Савецкай Беларусі" стаялі стагі саломы і сена.

— Малавата гумнаў... Лепш, калі ўсё пад страхой,—тлумачыў старшыня калгасу Ананьнеў Антось,—але-ж нічога ня зробіш. Намецілі ў будучым годзе, будзем будаваць абору.

Над полем, урлычылі жураравы, Ананьнеў падняў вочы ўверх, глянуў на ланцуг жураваў.

— Ліха на іх, напэўна на холад сабраліся ў вырай. А добра-б-было, каб яшчэ хоць тыдзень пастаяла надвор'е. Ну, дык пойдзем паглядзім наша багацьце.

У калгасе 36 гаспадарак. У час асеньняй пасеўнай кампаніі гэтага году ўлілася 8 новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

— А ведаеце, аднаасобнікі, падбухтораныя кулаком пасьмеіваліся, што мы ня справімся з работаю, адстанем, што на полі зазімуем, а як пабачылі, што ў нас ідзе дружна работа, дык і рушылі да нас... Зямлі то шмат—250 гэктараў толькі пахаці, а сілы малавата. Але ня ў гэтым справа. Увесь гвозд у расстаноўцы сілы, у арганізацыі працы.

І гэта добра ўявілі калгасьнікі. Перад выхадам на ўборку была склікана нарада. Склалі сацыялістычную ўмову і выклікалі на сацыялістычнае спаборніцтва суседні калгас па лепшай і хутчэйшай уборцы бяз страт. Пад непасрэдным кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі Бараўскага сельсавету калгасьнікі дабіліся значных посьпехаў. Уборку скончылі раней вызначаных тэрмінаў.

— Малоцім, рыхтуем збожжа для выдачы калгасьнікам па папярэдняму разьмеркаваньню, — сказаў Ананьнеў.

Выплёўваў барабан салому, амеці, а ніжэй плыло на ток буйнае зерне. Рухава варушыліся кожны на сваім месцы—калгасьнікі і калгасьніцы. Адны падавалі на стол разьвязаныя снапы, другія вытрасалі і адкідалі салому, выграбалі амецці і адсоўвалі збожжа.

Дзень хіліўся к вечару. Плавала ў паветры павуціньне, чаплялася за платы, за пасохлы быльнёгі і іржэўнік. Зьлёгку варушыў гольле дрэў мяккі павеў ветру. І з ціхім кружаньнем падалі долу набраклыя жоўтыя лісты.

— Тут, паўз хмызьняк праходзіць дзяржаўная граніца. За некалькі сот мэтраў расьцягнулася фашысцкая Польшча,—апавядаў Ананьнеў. І ведаеце, калі ў нас урачыстасьць, грае музыка, выходзяць з іх боку па аднаму, нібыта цені, сяляне і прагавіта ўслухоўваюцца ў моцныя бунтоўныя гукі Інтэрнацыяналу, блукаюць стомленыя погляды па горда ўзьнятых чырвоных сьцягох. Колькі тут тае адлегласьці...

Ананьнеў схіліў да долу галаву і працягваў:

— Гледзячы на абяздоленых зарубежных братоў па клясе, мы з яшчэ большаю сілаю змагаемся за ўзмацненьне нашага калгасу, патройваем тэмпы работы на палёх.

У калгасе пачынаўся вечар. Асядаў змрок. Крыху ўзмацніў сваю плынь вецер.

———

У памяшканьні праўленьня зьбіраліся калгасьнікі на сход.

— Давайце пагаворым, як дапамагчы калгасу імя Калініна і аднаасобнікам вёскі Петрашэвічы; вельмі-ж яны адстаюць у збожжазагатоўках і па ўборцы бульбы. Арганізуем буксірную брыгаду. Я першым іду,—гаварыў Багдановіч — лепшы селькор-ударнік.

Сход праходзіў ажыўлённа.

— Цішэй, дзядзькі, а то так мы талковага нічога ня зробім. Трэба па парадку браць слова, — сунімаў старшыня сходу Новік Уладзімер.

— Мы зрабілі папярэдні падлік працадзён і разьмеркаваньне прыбыткаў калгасьнікаў да 1-га кастрычніка. Нас ня многа, я хутка прачытаю. Сям'я Сядуры Янкі выпрацавала 507 працадзён. Да 1-га кастрычніка за працу ў калгасе на сям'ю Сядуры прыпадае 52 пуды 20 ф. жыта, 158 п. 4 ф. бульбы, 13 п. 10 ф. ячменю, 6 п. 20 ф. пшаніцы 3 п. 20 ф. гароху, 52 р. 70 к. грашыма. Сюды ня ўлічана грэчка, гародніна і сена. Акрамя гэтага ня ўлічаны прыбыткі з сядзібы уласнага карыстаньня, з якой атрымана 225 п. бульбы, 13 п. ячменю, 9 п. пшаніцы, аўсу і гародніны—зачытаў рахункавод.

У памяшканьні зноў загаманілі. Папрасіў слова калгасьнік Сядура.

— Вынікамі разьмеркаваньня я задаволены. Калі я раней ад свае гаспадаркі ня мог пражыць... Ды тут ведаюць усе, як я жыў. Цяпер-жа я маю ўжо 52 п. жыта ды і за тры месяцы нейкія 10 п., хопіць хлеба сабе і на калгасным базары змагу прадаць.

Рахункавод працягваў зачытваць працоўныя сьпісы калгасьнікаў і колькі налічваецца ім атрымаць.

Некаторыя калгасьнікі скардзіліся на няправільны ўлік працадзён брыгадзірамі, выкрывалі гультаёў і прагульшчыкаў. Праўленьне абавязалася праверыць факты, і маючыя недахопы і памылкі выправіць. На гэтым-жа сходзе быў абгаворан сьпіс лепшых ударнікаў калгасьнікаў, якія прызначаны для прэміяваньня.

Калгасьнікі абавязаліся датэрмінова выканаць фінплян, дапамагчы суседняму калгасу па ўборцы бульбы.

Словы калгасьнікаў—ня пустыя словы, яны адразу ператвараюцца ў жывыя канкрэтныя справы. Калгас „Ударнік Савецкай Беларусі" арганізаваў сапраўды дапамогу калгасу імя Калініна па бульба-ўборцы і збожжазагатоўках.

Папярэдняе разьмеркаваньне зьявілася моцным вагаром па ўзмацненьні ў калгасе працдысцыпліны. Скараціліся прагулы і спазьненьні на работу. Калгасьнікі ведаюць цяпер, што—хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае.

Ніводзін калгасьнік і калгасьніца цяпер не чакаюць, пакуль іх паклічуць на працу. Прыходзяць самі і настойліва патрабуюць працы.

Калгас „Ударнік Савецкай Беларусі" адзін з перадавых у Дзяржынскім раёне. У калгасе пасьпяхова рэалізуюцца пастановы ЦК і СНК СССР аб павышэньні ўраджайнасьці. Так, зяблівае ворыва—адзін з вагароў уздыму ўраджайнасьці—перавыканана на 42 гэктары, а жыта пасеяна на 7 дзён раней тэрміну.

У рады перадавікоў калгас „Ударнік Савецкай Беларусі" выйшаў толькі ў жорсткай барацьбе з кулацтвам і яго агентурай—правым апартунізмам, пад бальшавіцкім кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі Бараўскага сельсавету і актыўным удзеле камсамолу ва ўсіх гаспадарча-палітычных кампаніях.

**Ан. Астрэйка.**

# КОЖНАМУ КАЛГАСУ І САЎГАСУ — ГІСТОРЫЮ ПАЛЁЎ

Галаўня, асот, васількі, кукаль, пырнік і сотні другіх сарнякоў, а таксама рознага роду жукі, мухі, матылькі штогодна зьнішчаюць ад 10 да 25 проц. нашага ўраджаю.

Самым лепшым сродкам барацьбы з гэтымі ворагамі палёў зьяўляецца—своечасовая і добраякасная апрацоўка глебы, добрае ўгнаеньне палёў, сваячасовы і добры догляд за пасевам. Інакш кажучы, самым лепшым сродкам у барацьбе за павышэньне ўраджайнасьці нашых сацыялістычных палёў зьяўляецца правільная агратэхніка, правільны севазварот.

Вядома, што толькі ва ўмовах сацыялістычнай плянавай гаспадаркі севазварот сапраўды зьяўляецца сродкам падвышэньня ўраджайнасьці глебы. Пры чым пастанова ЦВК і СНК СССР аб замацаваньні землякарыстаньня за саўгасамі і калгасамі, дае саўгасам і калгасам яшчэ большыя магчымасьці для ўвядзеньня правільных севазваротаў. Дырэктыва ЦК і СНК абавязвае — ў 1933 годзе ўвесьці севазварот у кожным саўгасе, у кожным калгасе.

Але неабходна памятаць, што мэтазгоднае выкарыстаньне севазварота, як сродка падвышэньня ўраджайнасьці нашых палёў, патрабуе разам з выкананьнем прадугледжанай севазваротам сыстэмы, агратэхнічных мерапрыемстваў і належнага ўліку апошніх. Другімі словамі — севазварот патрабуе вядзеньня гісторыі палёў. Без гісторыі палёў за апошнія 2—3 гады немагчыма зрабіць найлепшага пераходу да правільнага севазвароту.

Пры наяўнасьці-ж севазвароту гісторыя палёў — гэта ключ да адшуканьня, непасрэдна ва ўмовах нашых саўгасаў і калгасаў, найлепшых сартоў культурных расьлін, найлепшых камбінацый угнаеньняў, найлепшых тэрмінаў апрацоўкі глебы, пасеваў і догляду за расьлінамі, найлепшых тэрмінаў уборкі гэтых расьлін. Вось чаму гісторыя палёў павінна быць заведзена ў кожным саўгасе, у кожным калгасе.

Што патрэбна для ўвядзеньня гісторыі палёў? Там, дзе маецца земляўпарадкоўчы плян, на тэрыторыі саўгасу, альбо калгасу, пры дапамозе гэтага пляну неабходна нанесьці межы сваіх ужыткаў на асобны аркуш паперы і на гэтым-жа аркушы адзначыць межы вучасткаў пад асобнымі культурамі (жытам, бульбай і г. д.). Там, дзе земляўпарадкавачага пляну няма, неабходна, шляхам аб'езду, ці абхода сваіх палёў, нанесьці на паперу схэматычна межы сваёй тэрыторыі і межы асобных вучасткаў пад асобнымі культурамі з указаньнем прыблізнага памеру гэтых вучасткаў у *га*. Гэта першая стадыя працы.

Далей неабходна атрыманыя, пры дапамозе схэматычных плянаў зьвесткі аб разьмяшчэньні культур, зьвесьці прыблізна ў такую табліцу:

1) Назва вучастка ці яго нумар, 2) Плошча вучастку ў *га*, 3) Глеба на вучастку, 4) Чым быў вучастак засеян у 1932 годзе, 1931 і 1930 г., 5) Якога і колькі цэнтнераў (ці вазоў) угнаеньня было пакладзена на вучастак у 1932, 1931 г. 1930 г., 6) Апрацоўка вучастка. Час ворыва на зяб, баранаваньня, пад'ёму папару ў 1932 г., 1931 г., 1930 г.

Гэтая табліца вельмі дапаможа пры ўстанаўленьні пераходу да правільнага севазвароту. Гэта падыход да ўвядзеньня гісторыі палёў.

Сама гісторыя палёў, як вышэй сказана, заключаецца ў дэталёвым запісу ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў, якія ажыцьцяўляюцца на кожным вучастку пахаці, лугу, гароду, саду. Вядзеньне такіх запісаў абавязкова павінна быць наладжана для пасеву будучага году, а дзе можна будзе, дык і для пасеваў гэтага году. Прыблізная форма для вядзеньня гэтых запісаў галоўным чынам у адносінах палявых культур, наступная. Поле №, клетка ці вучастак рэльеф (характар паверхні), якая глеба ў 1932 г., у 1933 г., у 1934 г. Якой культурай заняты вучастак ці клетка.

1) Пад'ём папару.—Час ворыва. Глыбіня ворыва. Якой прыладай.

2) Ворыва на зяб.—Час ворыва. Глыбіня. Якой прыладай.

3) Угнаеньне.—Вывезена гною вазоў ці цэнтнераў. Пакладзена мінэральных угнаеньняў у цэнт.

4) Перадпасеўная апрацоўка.—Час дыскаваньня і ў колькі сьлядоў. Час баранаваньня і культывацыі.

5) Пасеў. — Час пасеву. Які пасеў радковы і марка сявяркі раскідні і г. д. Гатунак насеньня і нормы высева.

6) Догляд за пасевамі і калі і чым была зроблена: першая праполка ці акучваньне, другая праполка ці акучваньне, трэцяя праполка ці акучваньне.

7) Назіраньне за пасевамі: час масавых усходаў, час масавага кушчэньня, час масавага калашэньня, час масавага цьвіценьня, пачатак масавага наліву зярна. Канец дасьпяваньня, характарыстыка засьмечанасьці вучастка перад ворывам. Характарыстыка засьмечанасьці перад уборкай пасева.

8) Пашкоджаньне ўраджая. Калі і якімі шкоднікамі. Стыхійнае пашкоджаньне (град, ці патравы).

9) Уборка. Час уборкі 1-й. Час уборкі 2-й. Спосаб уборкі 1-й. Спосаб уборкі другой.

10) Разьмер ўраджаю. Агульны збор з вучастка ці клеткі (у копах, вазох ці цэнтнерах). Сярэдні ўраджай з *га*.

Як бачым, форма зусім простая, цалкам даступная для вядзеньня самаму звычайнаму саўгаснаму і калгаснаму брыгадзіру. Пры чым на першы час яна можа быць заведзена пакуль што ў звычайным сшытку.

Дырэкцыі саўгасаў і МТС, праўленьням калгасаў неабходна, безадкладна прапрацаваўшы гэтае пытаньне, даручыць спэцыяльным брыгадам: у саўгасах—з аграномаў, старэйшых рабочых і брыгадзіраў, у калгасах—з аграномаў МТС (дзе можна будзе), палаводаў і брыгадзіраў, для складаньня названых вышэй схэматычных плянаў тэрыторыі саўгасаў і калгасаў (у якіх няма земляўпарадкавачых плянаў), і разьмяшчэньня культур за апошнія 2—3 гады, і адначасовага зьбіраньня астатніх зьвестак па прыведзенай вышэй прыблізнай форме.

Саўгасы павінны ня толькі выканаць яе сваячасова на сваіх палёх, але і дапамагчы ў гэтым акаляючым калгасам.

**Гарэлікаў, Рабышка.**

# ПРАВІЛЬНА ЗАХОЎВАЦЬ ГНОЙ— ГЭТА БУДУЧЫ ЎРАДЖАЙ

Ня толькі для падзолістых глеб, выпаханых і бедных спажыўнымі матэрыямі, але і для больш багатых глеб асабліва важнае значэньне мае гнойнае ўгнаеньне, павышаючае ўраджайнасьць большасьці культурных сельскагаспадарчых расьлін.

Вопытнымі станцыямі паказана, што гной, унасімы ў колькасьці 36 тон на *га*, павышае ўраджай хлябоў, бульбы і розных кармавых расьлін у паўтары, у два і нават у тры разы.

Вопытнымі ўстановамі Ленінградзкай вобласьці на працягу рада год устаноўлена, што жыта бяз угнаеньня давала 8,8 *цнт* з *га*, пры нармальным угнаеньні гноем (36 т. на *га*)—бульбы, суадпаведна 119,7, 191,5 і 206,6 *цнт* з *га*, падсоўнік, пасеяны на сілос без угнаеньня даў 133 *цнт* з *га*, а па гнойнаму ўгнаеньні (36 тон гною на *га*) даў 350 *цнт* зялёнай масы з гэктара.

У саўгасах і калектыўных гаспадарках жывёлаводнага напрамку за год накапліваюцца вялікія запасы гэтага каштоўнага ўгнаеньня. Гной, кіданы без прыгляду, амаль што хутка перагарае і каштоўныя спажыўныя матэрыі або зьнішчаюцца з яго бясьсьледна ў паветры альбо вымываюцца дажджавой вадой, асеньнімі і веснавымі асадкамі ў зямлю, ад чаго губляецца да паловы ўсёй сухой матэрыі гною і да 40 проц. знаходзячыхся ў ім спажыўных матэрый—азота і фосфара.

Задача кожнай сацыялістычнай гаспадаркі—добра падрыхтаваць гной і захаваць яго з найменшымі стратамі каштоўных угнаеньняў, каб скарыстоўваць затым для павышэньня ўраджайнасьці сваіх палёў.

Акадэмік Прянішнікаў падлічыў, што, калі-б мы зьнішчылі страты азота пры захаваньні гною, дык для народнай гаспадаркі СССР мы зьберагглі-б да 1 мільёна тон зьвязанага азота, што адпавядае 5 мільёнам тон сульфата амонія. А бульба, лён, бавоўна, канапель, зярно, буракі, гародніна і інш. расьліны акупяць кожны кілёграм азота дзесяткамі кілёграм дабавачнага ураджая.

Канешне поўнасьцю гэтыя страты зьнішчыць вельмі цяжка, але паменшыць іх і паменшыць значна мы можам. Пры рыхлай укладцы, напрыклад, страты спажыўных матэрый у гнаі бывае значна больш, чым пры захаваньні гною адразу-ж шчыльна ўтрамбаванага.

Адзін баварскі фэрмер (у Германіі) прапанаваў вельмі цікавы спосаб прыгатаваньня і хаваньня гною.

Гной, вычышчаны штодзенна са скотных двароў, складваецца наколькі магчыма рыхлее ў асобым месцы, альбо ў спэцыяльным памяшканьні—брадзільніку, адразу на плошчы, прыкладна, 6—9 кв. мэтраў і вышынёю да 1 мэтра. Складзены такім чынам гной вельмі хутка, праз 3—5 дзён, сам па сабе дае тэмпэратуру да 55—60° па градусьніку Цэльсія, пасьля чаго яго акуратна і шчыльна ўтрамбоўваюць нагамі.

У далейшым на ўтоптаны гной накладваецца рыхла новая порцыя сьвежага гною, даводзіцца зноў да гарачага становішча, утаптваецца, накладваецца сьвежая маса гною і г. д. да таго часу, пакуль штабель гною не дасягае $1^1/_2$—3 мэтраў вышыні.

Пры такім спосабе атрымоўваецца гной вельмі добрай якасьці, чаму ў Германіі яму і прысвоена назва палепшанага поўнакаштоўнага або „благароднага“ гною. Па спосабу яго апрацоўкі, часта такі гной называюць яшчэ гарача-спрэсаваным, альбо проста гарачым гноем.

Страты спажыўных матэрый пры такім прыгатаваньні гною атрымоўваюцца значна меншымі і ўраджай сельскагаспадарчых расьлін пры ўгнаеньні „благародным“ гноем атрымаецца вышэй, чым ад другіх відаў гною.

З іншых спосабаў захаваньня гною можна раіць захаваньне гною ў крытым гнояхавальніку з адводкаю гнойнай жыжы і з пэрыядычнай паліўкай гною гэтай жыжай, хаваньне гною ў штабелях або кучах, адразу-ж шчыльна ўтрамбаваных (халодная прэсоўка), хаваньне гною прама ў поле, але ў вялікіх кучах і г. д.

Для падрыхтоўкі і хаваньня ў халодна-спрэсаваным выглядзе гной вывозіцца на месца, адведзенае для хаваньня, акуратна ўкладваецца і зараз-жа шчыльна ўтрамбоўваецца нагамі або драўлянай трамбоўкай. Тут гной таксама ўкладваецца роўным чатырохвугольным штабелем, як і пры хаваньні гною па нямецкаму спосабу.

Розьніца паміж гэтымі двума спосабамі заключаецца толькі ў тым, што горача-спрэсаваны гной спачатку дні на 4—5 кладуць рыхла, раструсваюць на вызначанай плошчы, разаграваюць да 60—70° і затым шчыльна ўтрамбоўваюць. Гной-жа халодна-спрэсаваны, адразу без папярэдняга разаграваньня шчыльна ўтрамбоўваецца і так хаваецца да вывазкі на вучастак.

Для абодвух спосабаў не патрабуецца пабудовы спэцыяльных гнояхавальнікаў, або гнойных брадзільнікаў.

Гной з скотных двароў можна адразу-ж вывазіць на тое поле, дзе яго мяркуецца ўнасіць і там складваць штабелямі.

Для захаваньня ад дажджу і сьнегу штабелі гною належыць прыкрываць спэцыяльна зробленымі драўлянымі шчытамі, або слоем саломы.

Прыгатаваньне гарача-спрэсаванага гною такім чынам значна складнее халоднага спосаба, таму што патрабуе пры закладцы дакладнай раўнамернай раструскі гною і пасьледуючага ў працягу 4—5 дзён, зьмярэньня тэмпэратуры гною спэцыяльным, зробленым у кійку тэрмомэтрам.

Таму, саўгасам і калгасам асабліва раіцца спосаб прыгатаваньня і хаваньня гною ў халодна-спрэсаваным выглядзе, як спосаб, найбольш просты, не патрабуючы ад гаспадаркі ніякіх дадатковых затрат і разам з гэтым добра захоўваючы ад страт спажыўных матэрый, знаходзячыхся ў гнаі.

**М. Кандакоў.**

# За павышэньне ўраджайнасьці ільну

Для таго, каб павысіць ураджай, мы павінны зявярнуць усю ўвагу на агратэхніку (якасная апрацоўка глебы, уносіць угнаеньні, добра падрыхтаваць насеньне да пасеву, сваячасова пасеяць і г. д.). Зараз, перш за ўсё мы павінны падрыхтаваць насеньне для пасеву, бо ад насеньня ў значнай меры залежыць уздым ураджайнасьці.

Якасьць высяваемага насеньня ільну залежыць ад засьмечанасьці глебы і насеньня, ад тэрміну пасева, догляду за пасевамі і ўборкі.

Буйныя сацыялістычныя ільнаводныя гаспадаркі маюць усе магчымасьці павялічыць ураджайнасьць ільнавалакна, насеньня, адначасова паляпшаючы і якасьць апошніх.

Баявой, неадкладнай задачай зараз зьяўляецца арганізаваць масы рабочых саўгасаў і калгасьнікаў на барацьбу за аўладаньне тэхнікай ільнаводзтва, за павышэньне ўраджайнасьці ільнанасеньня і ільнавалакна, за палепшаньне якасьці ільнаводзтва.

У першую чаргу патрэбна зрабіць засыпку ільнанасеньня. Сваячасова засыпаць насеньне і страхавыя фонды—гэта першая задача, якая забясьпечыць сваячасовую падрыхтоўку і сваячасовы пасеў ільну, што вядома, зьяўляецца адным з вагароў ўздыму ўраджайнасьці. Ільнанасеньне, зьнятае з аднаго ўраджаю павінна мець роўны выгляд без усякіх прымешак хворага, недаразьвітага, мізэрнага насеньня. Насеньне павінна мець бліскучы сьветла-карычневы колер, без усякіх плямак.

Для вызначэньня якасьці насеньня (на колькі насеньне прыгодна да пасеву) утвараецца проба насеньня на ўсхожасьць, чыстату (ад засьмечанасьці) і вільготнасьць. Вызначэньне ўсхожасьці насеньня абавязкова. Па знадворнаму выгляду нельга вызначыць ці ўсхожае насеньне.

У кожным раёне павінны існаваць праверачныя пункты пры Райза, альбо МТС, дзе і ўтвараецца праверка на ўсхожасьць.

Захоўваць насеньне трэба ў сухім памяшканьні, якое можна праветрыць. У такіх умовах усхожасьць у разьвіўшагася насеньня ільна захоўваецца доўга. Марозаў яно не баіцца.

Пасеўнае насеньне павінна мець пэўную чыстату, гэта значыць, у ім не павінны дапускацца прымешкі пустазельля, сьмяцьця і інш. Сярэдняя норма чыстаты пасеўнага насеньня 96,5 проц.

Для таго, каб атрымаць насеньне годнае па чыстаце да пасеву, неабходна выканаць правілы агратэхнікі. Пасеў ільну ўтвараць на добра апрацаванай глебе, уносіць адпаведныя ўгнаеньні; ачышчаць насеньне на ачышчальных машынах; утвараць полку ад пустазельля пасеваў; пасьля ўборкі высушваць насеньне ў галоўках для поўнага дасьпяваньня, не дапускаючы вільгаці і загніваньня галовак; захоўваць насеньне ў сухіх памяшканьнях, якія добра праветрываюцца. Насеньне павінна мець пэўную вільготнасьць для таго, каб вытрымаць захаваньне да пасеву. Вільготнасьць дапускаецца ня вышэй 11—12 проц. Насеньне, якое мае вільготнасьць больш за 15 проц. лічыцца надта вільготным і павінна пасьля ўборкі прасушвацца.

Ільнянае насеньне звычайна мае шмат іншых прымешак, як жывых так і мёртвых, якія шкодзяць пасевам ільну. З мёртвага сорту сустракаюцца ў насеньні ільну розныя астаткі саломы, галовак, мякіны, пыл, пясок, дробныя каменьчыкі і інш. Жывое сьмецьце складаецца з насеньня пустазельля і інш. расьлін. Гэтае насеньне пасьля пасеву прарастае, дае расьліны і заглушае лён.

Частку гэтага пустазельля цяжка аддзяліць ад насеньня ільну і яно сустракаецца досыць часта. Адным з такіх злосных пустазельляў выдзяляецца плевел ільняны, насеньне якога вельмі падобна да насеньня ільну і па форме і па вялічыне. Пасьпявае плевел разам з ільном, таму яго насеньне так часта сустракаецца ў ільняным. З іншага пустазельля, да найбольш шкоднага, адносяць ільняную плюшку, торыцу і рыжык. Насеньне плюшкі ільняной—чорнае, бліскучае, плюскатае, мае форму сардэчка. Пасьпявае плюшка разам з ільном, і шырыня насеньня яе амаль аднолькава з ільняным, а таму таксама яе цяжка аддзяліць. Насеньне ільнянай торыцы круглае, чорнае, крыху маршчыністае.

Асабліва патрэбна зьвярнуць увагу на барацьбу з павілікай альбо кускуту, якая наносіць вялікую шкоду ільняным пасевам. Павіліка—паразіт. Яна высасвае сваімі прысоскамі спажыўныя сокі з ільнянога сьцябла, вакол якога абвіваецца. Насеньне павілікі круглаватае, няправільнай формы, дробнае, і яго можна аддзяліць пры ачыстцы на ільнатрашчотцы і трыеры.

Ільняное насеньне, як ужо ўказвалася, мае шмат розных прымешак і гэтыя прымешкі маюць розныя ўласьцівасьці. Гэта выклікае неабходнасьць ужываць для ачысткі ільнянога насеньня рад машын у пасьлядоўным парадку.

У залежнасьці ад таго, на якіх машынах аддзяляюцца тыя ці іншыя прымешкі ільнянага насеньня, усё сьмецьце разьбіваецца на асобныя групы і ўстанаўліваецца, на якой машыне патрэбна аддзяліць тую ці іншую групу прымешак.

Ачыстка пасеўнага матар'ялу ільна на існуючых для гэтай мэты машынах утвараецца па наступных прыметах:

**Аддзяленьне прымешак па вазе.** Для гэтай мэты ў нас маюцца веялкі і сартыроўкі, якія аддзяляюць усякія прымешкі, што па сваёй вазе значна адрозьніваюцца ад ільнянога насеньня. Да гэтай групы адносяцца: мякіна, буйныя саламяныя прымешкі, пыл, шчуплае насеньне ільна і некаторае насеньне пустазельля, з так званымі „парруснымі“ прыдаткамі, як напрыклад васілёк.

Да 2-й групы адносяцца прымешкі, якія аддзяляюцца па свайму памеру. Гэтае аддзяленьне ўтвараецца ільняной трашчоткай, пасеўным сітам трыера і сартыроўкі і сітамі складаных машын, як маніторы і сапаратары. Пры гэтым аддзяляецца насеньне дробнага і вялікага пустазельля, што адрозьніваецца па памеру ад насеньня ільну (значная частка насеньня торыцы, ірыжыка, часткова дробная і буйная плюшка, плевел і прымешкі насеньня культурных расьлін). Пры гэтым таксама аддзяляюцца розныя каменьчыкі і буйны пясок, насеньнягалоўкі і частка бітага і папсаванага насеньня ільну.

3-ая група прымешак аддзяляецца па форме. Адкідваюцца ўсе прымешкі, якія роўны ільняному насеньню па вазе і вялічыне. Гэтую работу аддзяленьня прымешак па форме робіць ільняны трыер. Пры ачыстцы на ільняным трыеры адкідаецца насеньне плюшкі, частка торыцы і бітае насеньне ільну.

**Н. Б.**

# За раўнамернае атрыманьне малака ў гаспадарцы на працягу году, за раўнамерныя ацёлы

Малочная гаспадарка павінна ня толькі даць максымум найбольш таннай малочнай прадукцыі, але і кіравацца тэрмінамі, найбольш адпавядаючымі запатрабаваньням харчовай прамысловасьці і народнай гаспадаркі ў цэлым.

Апошняга магчыма дасягнуць шляхам рэгуляваньня ацёлу ў гаспадарцы, пераводзячы стада саўгасаў і калгасаў на раўнамерны на працягу году ацёл. У нас пакуль што ніхто гэтым пытаньнем не займаўся, што выклікала бясплянавасьць і стыхійнасьць у гэтай рабоце.

Па дадзеных экспэдыцыі абсьледваньня буйнай рагатай жывёлы, праведзенай Навукова-Дасьледчым Інстытутам сельскай гаспадаркі ў 1929 годзе, мы мелі такі малюнак з ацёламі (у процантах):

| Акругі і гаспадарчы сэктар | Вясна | Лета | Восень | Зіма |
|---|---|---|---|---|
| **Полацкая акруга** | | | | |
| а) калгасы | 42,2 | 7,2 | 7,2 | 37,4 |
| б) гарады і мяст. | 48,6 | 2.8 | 8,4 | 40,2 |
| в) індывідуальны сэктар | 43,8 | 3,5 | 2,8 | 50,2 |
| **Магілеўская акруга** | | | | |
| а) саўгасы | 41,7 | 3,2 | — | 55,1 |
| б) калгасы | 41,4 | 6,0 | 4,0 | 48,5 |
| в) гарады і мяст. | 57,3 | 6,8 | 4,8 | 31,1 |
| г) індывідуальны сэктар | 64,2 | 6,4 | 1,2 | 28,2 |
| **Мазырская акруга** | | | | |
| а) саўгасы | 45,7 | 23,9 | 3,5 | 26,9 |
| б) калгасы | 51,1 | 5,5 | 5,4 | 38,0 |
| в) гарады і мяст. | 66,6 | 4,2 | 12,5 | 16,7 |
| г) індывідуальны сэктар | 60,9 | 10,5 | 3,4 | 25,2 |

Даныя па гэтых трох акругах ахопліваюць паўночную, цэнтральную і паўднёвую часткі БССР, што дае поўную характарыстыку становішча з ацёламі па БССР.

Лічбы гавораць за тое, што па ўсіх сэктарох мы маем пераважна зімова-веснавыя ацёлы. Гэтае разьмеркаваньне ацёлаў на працягу году мела сваю абгрунтаванасьць. Па-першае, пры тым дрэнным кармленьні жывёлы, якое мела месца раней пры стойлавым утрыманьні, жывёла спадала з цела за стойлавы пэрыяд, і толькі з выхадам на пашу пачынала папраўляцца, і ў яе пачынала зьяўляцца палавое імкненьне, і, па-другое, імкненьні селяніна забясьпечыць сябе на рабочы час улетку малаком.

Але пры гэтым ня зусім поўна скарыстоўваліся здольнасьці новацельнай жывёлы даваць максымальныя ўдоі, бо гэтыя ўдоі падалі на той час, калі ў гаспадарцы ня было кармоў і таму высокая прадукцыйнасьць не стымулявалася добрым кармленьнем.

Зімова-веснавыя ацёлы дрэнна адбіваліся на забясьпечаньні насельніцтва малочнымі прадуктамі. Ёсьць і яшчэ цэлы шэраг адмоўных бакоў у такой пастаноўцы справы.

Нераўнамерная загрузка малочных прадпрыемстваў малаком, як сыравінай, чаму гэтыя прадпрыемствы і не маглі працаваць на працягу ўсяго году з поўнай нагрузкай. Няпоўна скарыстоўвалася пры гэтым абсталяваньне прадпрыемстваў, спэцыялісты, выклікалася сэзоннасьць у патрэбнасьці на рабсілу і г. д. Усё гэта, бязумоўна, падвышала сабекаштоўнасьць атрымліваемай прадукцыі.

Зімова-веснавыя ацёлы патрабуюць большага адвядзеньня плошчы пад радзільныя памяшканьні, якія ўлетку і ўвосень амаль што зусім непатрэбны. Тое-ж самае мажліва будзе сказаць і пра цялятнікі.

Вытворнікі пры зімовых ацёлах скарыстоўваюцца нераўнамерна, маюць пэрыядычна вялікую нагрузку і хутчэй зношваюцца. Маючы раўнамерныя ацёлы, куды лягчэй для гаспадаркі арганізаваць працу як даярак, гэтак і цялятніц.

І ўрэшце, нераўнамерныя ацёлы ня спрыяюць гандлю малочнымі прадуктамі за межамі, бо і тут патрэбна, каб гэта прадукцыя ішла на замежны рынак таксама ў адпаведныя тэрміны.

Усё гэта яскрава падкрэсьлівае тое, што мы павінны перайсьці ад зімова-веснавых ацёлаў да раўнамерных ацёлаў на працягу году.

Як-жа гэта практычна зрабіць?

Усім вядома, што цяжарнасьць у кароў працягваецца 280—290 дзён; праз 20—28 дзён пасьля ацёлу наступае ў каровы першая цечка, якая паўтараецца прыкладна праз такі-ж тэрмін, калі карова яшчэ не пакрыта. Адгэтуль зусім лёгка зрабіць вывад, што перавод кароў на раўнамерны ацёл будзе грунтавацца на пераносе злучкі з другой, напрыклад, цечкі, на трэцюю, або на чацьвертую.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што сухастойны пэрыяд менш 60—80 дзён выклікае паніжэньне прадукцыйнасьці ў наступную лактацыю. Больш чым 80 дзён сухастойны пэрыяд павялічвае ўдой за наступную лактацыю, але можа паслужыць прычынай ялавасьці жывёлы, бо чым далей ад ацёлу, тым цечка наступае ўсё менш рэгулярна і ня так добра выражана, чаму яе можна і прапусьціць. Найбольш пажаданым часам злучкі лічыцца час— 60—120 дзён пасьля ацёлу.

Горацкая занальная станцыя малочнай гаспадаркі прапрацавала гэтае пытаньне і абгаварыла яго на нарадзе прадстаўнікоў станцыі і горацкіх ВНУ і прышла да вываду, што для пераводу саўгаснага і калгаснага стада на раўнамерны ацёл патрабуецца каля 4 год і для МТФ—5 гадоў.

Саўгасы і МТФ павінны цяпер-жа прыступіць да гэтай працы, прадугледжваючы сваімі прамфінплянамі і злучнымі плянамі наступнага году гэты пераход на раўнамерны ацёл. Некалькі інакш справа абстаіць з племгасамі, дзе галоўнай прадукцыяй павінна быць не малако, а цяляты. Практыка і досьледы паказалі, што найбольш здаровыя і буйныя цяляты атрымоўваюцца пры ацёлах увосень і ўзімку. Цяляты пры гэтым да вясны ўжо значна апраўляюцца і спачатку вясны выходзяць на пашу, якая вельмі добра ўплывае на іх здароўе і разьвіцьцё. У племгасах трэба арыентавацца ў асноўным на ацёлы асеньня-зімовыя.

**А. Сяргееў.**

# РАЦЫЯНАЛЬНА ВЫКАРЫСТАЦЬ БРАГУ

Брагай (бардой) называюцца адыходы вінакуранай прамысловасьці. Сыравінай для гэтай прамысловасьці служыць бульба і збожжа (кукуруза, жыта і інш.).

### Брага—добры корм

Пры ўмераным і ўмелым кармленьні жывёлы брагай, атрымліваюцца добрыя вынікі: малочная жывёла павышае ўдоі; адкармліваемая жывёла дае добрую прывагу і г. д.

Брага пры хаваньні хутка скісае і псуецца. Таму, у пагоні за выкарыстаньнем усёй масы такога прадукту, стараюцца яе скармліваць жывёлай у празьмерна вялікай колькасьці, асабліва адкармліваемай жывёле (дачы часам даходзяць да 150 кілёграм на галаву ў суткі).

Ад такога празьмернага і няўмелага кармленьня брагай наглядаецца расстройства страўніка (панос), макрэц і наогул аслабленьне арганізму (асабліва пры кармленьні бульбяной брагай); малако робіцца вадзяністым, менш моцным і смачным, зьніжаецца якасьць масла і сыра ад гэтага малака, павялічваюцца ненармальныя ацёлы і сьмяротнасьць цялят; у адкармліваемай жывёлы мяса робіцца няпрыемнага смаку і сала надзвычайна мяккім.

Малапрыгодна брага для маладой жывёлы таму, што яна бедна вапнаю і выклікае ў маладняка панос. Па гэтых-жа прычынах ня раіцца даваць брагу цяжарнай і той жывёле, якая корміць дзіцё.

Сацыялістычныя гаспадаркі (саўгасы, калгасы) павінны завайстрыць сваю ўвагу на поўным і рацыянальным выкарыстаньні гэтага каштоўнага кармовага прадукту—брагі. Пры захаваньні адпаведных, зусім простых мер перасьцярогі, пры ўмераных дачах,—зусім лёгка папярэдзіць усе шкодныя ўплывы ад скармліваньня брагі.

Пры скармліваньні брагі, жывёла павінна атрымаць дастатковую колькасьць і дастаткова вольных матэрый і вітамінаў. Брага і грубыя кармы ўзаемадапаўняюць адзін другога ў спажыўных матэрыях і ўзаемна паляпшаюць спацыфічныя якасьці гэтых кармоў.

Дзякуючы вузкім адносінам спажыўных матэрый (1:3-4) брага дае магчымасьць добра выкарыстаць грубыя (гуменныя) кармы, бедныя бялком. Пры скармліваньні брага павінна быць абавязкова сьвежай і цёплай (40°С). Пры скармліваньні-ж больш гарачай брагі наглядаліся выкідышы і большая сьмяротнасьць цялят.

Пры скармліваньні брагі трэба захоўваць чыстату на скотным двары і сваячасова мяняць падсьцілку. Рэшткі брагі хутка разлагаюцца і набываюць шкодныя ўласьцівасьці. Таму трэба карыта і брагаправоды старанна чысьціць і прамываць вапнянай вадой. Пры падвозцы брагі тара павінна таксама ўтрымлівацца ў поўнай чыстаце.

Да сутачнай дачы брагі трэба дадаваць мелу 30-50 грам у суткі ў залежнасьці ад яе дачы, для нейтралізацыі маючай свабоднай кіслаты і папаўненьня недахопу вапны.

Сутачная дача брагі павінна быць абмежавана. Коням у цяжкай рабоце, племяннной жывёле, цяжарным і маладой жывёле трэба скармліваць брагу ў меншай колькасьці. Бульбяную брагу даваць гэтай жывёле зусім непажадана, бо бульбяная брага пры скармліваньні здольна часам выклікаць паказаныя вышэй хваробы. Брага з сыравіны 2/3 бульбы, 1/3 зярна не выклікае ўжо небясьпекі пры скармліваньні.

### Падрыхтоўка брагі

У мэтах больш мэтазгоднага скарыстаньня як брагі, так і грубых кармоў, неабходна іх у выглядзе рэзкі, ці мякіны запарваць гарачай брагай. Самае лепшае скарыстаньне гэтых кармоў утвараецца пасьля таго, як яны перабродзяць суткі. Для гэтай мэты кладзецца сечка, ці мякіна тонкім пластом, які раўнамерна палівaецца гарачай брагай і добра ўтаптваецца. Гэта паслойнае чаргаваньне паўтараецца.

З гэтага відаць, што брагу трэба скармліваць жывёлай толькі ва ўмеранай колькасьці. Значыць, рацыянальна выкарыстаць усю масу гэтага нетранспартабельнага корму ў сьвежым выглядзе на месцы немагчыма. У сувязі з гэтым паўстае пытаньне аб неабходнасьці кансэрвіраваньня гэтага вельмі каштоўнага кармовага прадукту.

Самы даступны спосаб кансэрвіраваньня брагі—гэта яе сіласаваньне.

Паводле нагляданьняў **І. П. Іскрова** (Горацкая занальная станцыя малочнай гаспадаркі) у саўгасе Карма-Сырок БССР быком давалася аднáчасова з сьвежай травой сілас брагі з саламянай рэзкай. Быкі перасталі есьці траву і з прагнасьцю накінуліся на сілас.

Гэта гаворыць за тое, што гэты сілас з посьпехам можа быць выкарыстан на працягу круглага году.

Такім чынам, зусім відавочна, што прызаводзкія гаспадаркі павінны ў абавязковым парадку ўсе свае запасы грубых кармоў, саломы, мякіны і дрэннага сена засіласаваць з брагай.

Наша сацыялістычная жывёлагадоўля павінна пакрыць усё ўзрастаючыя запатрабаваньні рабочага снабжэньня і вялікі попыт на жывёлагадоўчую сыравіну з боку сацыялістычнай прамысловасьці. Падводзячы ўстойлівую кармовую базу для выкананьня гэтай задачы мы павінны выкарыстаць такі каштоўны кармовы прадукт, як брагу поўнасьцю без страт.

**В. О. Гурэвіч.**

**Ад рэдакцыі. У наступным нумары „Шляхі Калектывізацыі“ будзе зьмешчан артыкул „Як сіласаваць брагу“.**

# Як захаваць гароднiну на зiму

У час хаваньня гароднiна прападае з-за таго, што яна саграецца, цi падмярзае зiмою. Галоўным-жа чынам гiбель яе адбываецца з-за шкоднiкаў— грыбоў i бактэрый, трапляючых у хавальнi разам з занасiмай сюды гароднiнай. Тут шкоднiкi могуць жыць з году ў год, калi ня будуць прыняты меры да iх зьнiшчэньня. Гэтыя шкоднiкi могуць разьвiвацца толькi пры пэўных умовах вiльготнасьцi i тэмпэратуры. У вядомай меры гэта залежыць таксама i ад стану самой гароднiны.

Хаваньне можа быць буртовае цi траншэйнае i падвальнае. Але пры любым спосабе хаваньня неабходнай умовай, забясьпечваючай найменшыя страты, зьяўляецца, як ужо ўпамiналася, тэмпэратура хаваньня.

Пры тэмпэратуры вышэй 3—4° узмацняецца дыханьне i ствараюцца больш спрыяючыя ўмовы для разьвiцьця грыбных i бактэрыяльных захворваньняў. Таму, увосень вялiкае значэньне мае час загрузкi хавальнi. Загрузка на хаваньне пры сярэдняй дзённай тэмпэратуры вышэй 10° непажадана. Практычна з восенi пры загрузцы ў хавальнi бывае 6—8° i вышэй, а таму з самага пачатку неабходна прыняць меры да хутчэйшага зьнiжэньня тэмпэратуры да нармальнай. Лепшай тэмпэратурай для зiмовага хаваньня лiчыцца 1-2°. Такая тэмпэратура лепш падтрымлiвае захоўваемую гароднiну ў стане зiмняга пакою i затрымлiвае разьвiцьцё шкоднiкаў i паразытаў.

Гароднiна, прызначаная для хаваньня павiнна быць убрана высьпеўшай i адсартаванай. У час сартыроўкi бракуюцца ня толькi ўсе хворыя экзэмпляры, але нават падазронныя i маючыя мэханiчныя пашкоджаньнi.

Самая хавальня павiнна быць чыстай, досыць сухой i прыстасаванай да рэгуляваньняў ёй у час хаваньня тэмпэратуры i вiльготнасьцi.

Клопаты аб падвальных хавальнях павiнны пачацца з вясны. Пасьля выгрузкi гароднiны хавальня павiнна быць старанна ачышчана, прасушана, усе зьёмныя часткi вынесены на двор. Побач з прасушкай, неабходна хавальню прадэзынфэкаваць, апырскваючы дах (з нутранога боку), сьцены, засекi i палiцы вапняным малаком (3 *кг* сьвежа-паленай вапны на вядро вады). Далей неабходна, асаблiва пры наяўнасьцi грыбных захворваньняў, утварыць дызэнфэкцыю хавальнi, акурыўшы яе серкай.

У гэтым выпадку хавальню шчыльна закрываюць, шчылiны замазваюць i спальваюць серу на жалезных процьвiнях (30 *г* серы на 1 кубамэтр). Праз суткi падвал адкрываюць i праветрываюць, а праз двое сутак яго можна загружаць гароднiнай.

Хаваньне ўсiх кораньплодаў дапусьцiма ў адной i той-жа хавальнi пры адной i той-жа тэмпэратуры. Бручка, рэдзька, буракi i пастэрнак хаваюцца ў засеках вышынёю ня больш 1 *м* 25 *см*. Другiя кораньплоды (морква, пятрушка, сельдэрэй i рэпа) лепш захоўваюцца ў штабелях з праслойкай пяску. Трэба ўлiчыць, што ў прылягаючых да выхадаў пралётах умовы тэмпэратуры i вiльготнасьцi будуць другiя. З гэтай прычыны захоўваць у iх кораньплоды ня трэба, а трэба трымаць у гэтых пралётах запасны пясок i вапну для догляду за хавальняй.

Пасьля загрузкi хавальнi ўсе клопаты аб ёй зводзяцца галоўным чынам да рэгуляваньня тэмпэратуры, якая павiнна трымацца ў межах 1-2° цяпла, а для капусты каля 0° з хiстаньнямi да 2°. Тэмпэратуру ў хавальнi трэба вымяраць кожны дзень i сачыць за поўнасьцю вымярэньняў. Вымярэньнi ўтвараюць у некалькiх мясцох хавальнi: на адлегласьцi 2 *м* ад уваходных дзьвярэй з абодвых канцоў над узроўнем падлогi на 20 *см*, потым на сярэдзiне падвала на вышынi 1-1,25 мэтра ад падлогi, i нарэшце на сярэдзiне падвала на ўзроўнi найвышэйшай загрузкi гароднiны. Гэтыя вымярэньнi даюць указаньнi як аб неабходнасьцi вэнтыляцыi, так i ацяпленьня хавальнi.

Кораньплоды ў хаваньнi хварэюць галоўным чынам белай i шэрай гнiльлю. Пры наяўнасьцi белай гнiлi грыбнiца пранiзвае кораньплоды. Спачатку паражэньне праяўляецца ў выглядзе белых пушыстых хлоп'еў, пасьля чаго кораньплоды пачынаюць загнiваць, ператвараючыся ў кашападобную масу. У мясцох скапленьня грыбнiцы ствараюцца склероцыi, маючыя ад жалвакоў чорнага колеру i няправiльнай формы i зьяўляючыеся зiмуючай стадыяй грыба.

У выпадку паражэньня шэрай гнiльлю на паверхнi паражоных пладоў стварaецца густы налёт спачатку белы, пазьней — шэра-мышынага колеру. Урэшце налёт радзее i ў iм ствараюцца дробныя чорныя склероцыi. Пры выкрыцьцi захворваньня паражоныя кораньплоды належыць асьцярожна выцягваць з штабеляў i ўдаляць з хавальнi.

Кораньплоды, закладзеныя ў хавальню здаровымi i з праслойкай пяску, звычайна захоўваюцца здавальняюча. Калi кораньплоды здаровыя цi сустракаюцца толькi адзiныя экзэмпляры, заражаныя гнiльлю, то пераборак утвараць ня трэба. Пры выкрыцьцi гнёзд белай гнiлi трэба ўтвараць пераборку. З гэтай мэтай выбiраюць усе здаровыя i сухiя кораньплоды для закладкi ў штабель з новым пяском. Карэньнi здаровыя, але якiя знаходзiлiся ў датыканьнi з гнёздамi гнiлi, апырскваюцца сьвежаапаленай вапнаю i закладваюцца ў новы штабель.

Супроць шэрай гнiлi таксама рэкамэндуецца апыленьне сьвежаапаленай вапнаю цi серным колерам. Пры хаваньнi без праслойкi пяска можна толькi выкiдаць захварэўшыя кораньплоды.

Наколькi наглядаецца масавае распаўсюджаньне гнiлi, пераборку трэба ўтварыць адначасова з дэзынфэкцыяй вапнаю. Лiшнiх пераборак рабiць ня трэба, каб унiкнуць пераносу заразнага пачатку рукамi, кашамi i iнш. Гнiль i абрэзкi зараз-жа выносяць з хавальнi. Падлога на тых мясцох, дзе ўтваралася работа па ачыстцы гароднiны, ачышчаецца i пасыпаецца няпаленай вапнаю.

**Сiгранская.**

# АЦЯПЛЯЙЦЕ БУРТЫ З БУЛЬБАЙ

У Германії шырока ўжываецца просты, але даючы добрыя вынікі спосаб ацяпленьня буртоў з бульбай.

Увосень, пасьля таго, як бурты канчаткова ўкрыты на зіму (саломай і зямлёй), іх абкладваюць дробным хворастам, яловым лапнікам альбо бур'янам. Накладку любога з гэтых матар'ялаў пачынаюць ня зьнізу, а зьверху. Ад гэтага пакрыцьцё атрымаецца ня роўнае, а ў выглядзе ўступаў. Канцы кожнага рада дробнага хвораста альбо лапніка будуць пры гэтым тырчэць, і паверх бурта ўтворыцца як-бы шчотка. З прычыны гэтага зімой на бурт будзе набівацца шмат сьнегу, і нават вялікія вятры ня будуць яго сдуваць.

Гэты слой сьнега і будзе захоўваць бульбу ад прамярзаньня. Накрываючы дробным хворастам, лапнікам і г. д., трэба толькі зрабіць, каб у час работы не псавалася земляная пакрыўка бурта. Практыка нямецкіх гаспадарак паказвае, што пакрытыя такім чынам бурты не прамярзаюць нават пры марозах у 35° Ц. Бурты бяз такога дабавачнага прыкрыцьця прамярзаюць (з боку халодных вятроў) пры марозах у 20° Ц.

# Супроць апартуністычнай блытаніны ў пытаньнях спэцыялізацыі сацыялістычнага земляробства

(*Працяг гл. №№ 20—21 і 22 „Ш. К.“*)

Але справа ў аўтараў не абмяжоўваецца поўным абагуленьнем малочнай жывёлагадоўлі. Ва ўсіх праектоўках вытворчых тыпаў МТС у другой пяцігодцы зусім выключаецца індывідуальная вытворчасьць калгасьнікаў: дробная жывёла, птушка, гарод, сад і г. д. Больш таго, да канца другой пяцігодкі калгасьнікі ўжо не калгасьнікі: „яны будуць у асноўным працаваць на станках пралетарскай дзяржавы (трактары, камбайны, аўтамабілі і г. д.) пад кіраўніцтвам дзяржаўных служачых—дырэктароў, інжынэраў, аграномаў“ (вып. I, стар. 42. Разрадка наша.—Я. М.). У некаторых месцах кнігі яны ўжо называюцца „рабочымі“ (вып. I, стар. 140, 185). Як быццам далей ісьці некуды. Але не. Ня ўсім цяперашнім калгасьнікам пашчасьлівіцца да канца другой пяцігодкі працаваць на станкох пралетарскай дзяржавы пад кіраўніцтвам дзяржаўных служачых: „Непасрэдна ў калгасе застанецца толькі 6.500 працаздольных, г. зн. адна чвэртая частка цяперашняга складу працаздольных калгасьнікаў“ (з 21.000), (вып. I, стар. 42). Куды-ж дзенуцца астатнія тры чвэрці цяперашняга складу працаздольных калгасьнікаў? Аказваецца, яны проста „вызваляюцца“.

І гэта ня толькі ў ільнаводных калгасах. Вынікі праэктоўкі вытворчага тыпу баваўнянай МТС яшчэ больш уражальныя, у раёнах бавоўнаводзтва „ў сельскай гаспадарцы атрымліваецца вялізарны рэзэрв рабочай сілы, роўны 83 проц. усяго працаздольнага насельніцтва“ (вып. I, стар. 241).

Пасьля задавальненьня ў рабочай сіле ўсіх індустрыяльных і неіндустрыяльных установ, раёнаў дзейнасьці МТС, шчодра насаждаемых нашымі „прожектёрамі“, па думцы аўтараў, у сярэднім па Саюзе ўсё-ж будзе „вызвалена“ за межы раёнаў дзейнасьці МТС „каля 50 проц. насельніцтва, сёньня занятага ў сельскай гаспадарцы“ (стар. 18). Абсурднасьць і палітычная шкоднасьць такіх установак зусім відавочны. Толькі людзі, якія знаходзяцца ў етане нястрымнага лёгкадумства, могуць кідацца такімі пражэктамі, якія знаходзяцца ў крычашчай супярэчнасьці з партыйнымі ўстаноўкамі ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Праэктоўкі „вызваленьня“ калгасьнікаў пакояцца нібы на разьліках аб росьце вытворчасьці працы ў другім пяцігодзьдзі. Але каго могуць пераканаць такія разьлікі, у выніку якіх атрымаецца рост вытворчасьці працы па гаспадарцы раёну ў цэлым у 27 разоў, а па асобных відах работ у 40—60 разоў? (вып. I, стар. 66). У аснову гэтых разьлікаў пакладзены: прагрэсыўна-прэміяльная зьдзельшчына (вып. I, стар. 89, 135) і ўвядзеньне ў дзеяньне, а потым і поўнае асваеньне ў сельскагаспадарчай вытворчасьці машын, ня толькі практычна яшчэ неправераных, але яшчэ пакуль і ня вынайдзеных (вып. I, стар. 258). Справа даходзіць да кур'ёзаў: аўтары выходзяць з таго, што за пэрыяд другой пяцігодкі будуць ажыцьцяўлены ўсе мысьлімыя тэхнічныя ўдасканаленьні і вынаходніцтвы ў сельскагаспадарчай вытворчасьці.

У прадмове да першага выпуску дырэкцыя Калгаснага інстытуту выдала шматабяцаючы вэксаль: „У рабоце па тыпу МТС, як у фокусе, адбіваецца рад вузлавых праблем пяцігодкі, пачынаючы з пытаньняў энэргетыкі, мэханізацыі, агратэхнікі, арганізацыі асобных галін сельскай гаспадаркі і канчаючы перарастаньнем калгасаў пад кіраўніцтвам пралетарыяту ў вышэйшыя формы“.

Аўтары няўдала спрабуюць вырашыць рад пытаньняў тэхнікі сельскагаспадарчай вытворчасьці. Так, напрыклад, аўтары сьцьвярджаюць:

„Мэханізацыя ягадных хмызьнякоў (маліна, парэчкі, агрэст) не патрабуе асаблівага тыпу машыны. Усе машыны, а роўна і трактары, прызначаныя для мэханізацыі гародных культур, могуць быць з посьпехам выкарыстаны для ягаднікаў“ (вып. I стар. 258).

Ці ў другім месцы:

„Ніякіх істотных зьмен трактара не патрабуецца пры пераводзе яго на цьвёрдае паліва“ (вып. II, стар. 68).

Якая лёгкадумнасьць у вырашэньні буйнейшых пытаньняў! Якая спрошчанасьць і вульгарызацыя!

Што датычыцца палітыкі партыі ў вёсцы, пытаньняў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, аналізу сацыяльна-эканамічных і клясавых зрухаў у будучыя гады,—ва ўсіх гэтых пытаньнях ад работнікаў Калгаснага інстытуту можна і трэба чакаць абсалютнай чоткасьці і яснасьці. Іх асноўнай задачай зьяўляецца навуковая распрацоўка гэтых пытаньняў. Аднак, мы бачылі ўжо, які антыпартыйны „лявацкі“ адказ даюць аўтары па пытаньні аб пэрспэктывах разьвіцьця калгасаў у другой пяцігодцы. У сувязі з гэтым рад важнейшых пытаньняў калгаснага будаўніцтва, зьвязаных з прыродай калгасаў, выпаў з поля зроку супрацоўнікаў

Калгаснага інстытуту пры распрацоўцы вытворчых тыпаў МТС у другой пяцігодцы. Праэктоўка ўсіх вытворча-тэхнічных момантаў знаходзіцца ў недапусьцімым адрыве ад сацыяльна-эканамічных фактараў.

Пасьля ўзбуйненьня калгасаў і „вызваленьня насельніцтва“ (вып. I, стар. 18, 41—42) ва ўсіх далейшых разьліках калгасьнікі дэманстрацыйна адсутнічаюць, замест іх зрэдку мільгаюць перакідваемыя на аўтамабілях „рабочыя“ (вып. I, стар. 185).

Важнейшая палітычная задача другой пяцігодкі, сфармуляваная XVII партыйнай канфэрэнцыяй, заменена аўтарамі безадкладным і стопроцантным абагуленьнем усіх галін гаспадаркі, узбуйненьнем калгасаў, „вызваленьнем“ з калгасаў трох чвэртак калгасьнікаў і перАтварэньнем апошняй чвэрткі калгасьнікаў у работнікаў на станках пралетарскай дзяржавы пад кіраўніцтвам дзяржаўных служачых. Тым самым аўтары „в два счета“ вырашылі ўсе сацыяльныя праблемы, усе важнейшыя і складаныя пытаньні арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і пераТварэньня на яго аснове калгасьніка ў сьвядомага і актыўнага будаўніка бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

У выніку разьвіцьця калгасу як сацыялістычнага тыпу прадпрыемства, у якім сродкі вытворчасьці належаць самім калгасьнікам з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі, выпала з распрацоўкі вытворчых тыпаў МТС: асноўнае зьвяно арганізацыі і ўмацаваньня калгаснай вытворчасьці—сталая вытворчая калгасная брыгада—адсутнічае ва ўсіх праэктоўках; пытаньне накапленьня і пашыранага адстанаўленьня па важнейшых элемэнтах калгаснай вытворчасьці (машыны і прылады, пасеўныя плошчы, пагалоўе важнейшых відаў жывёлы, пабудовы, насаджэньні і г. д.); пытаньні аб тэмпах гэтага накапленьня, пытаньні даходу калгасьнікаў у канкрэтнай сувязі з усімі мерапрыемствамі арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў—усе гэтыя важнейшыя ўмовы разьвіцьця калгасаў ня ўлічаны і не адбіты ў распрацоўцы вытворчых тыпаў МТС.

Агульная „лявацкая“ ўстаноўка аўтараў у разуменьні пэрспэктыў разьвіцьця калгасаў у другую пяцігодку прыводзіць да значнага збліжэньня іх пазыцый з пазыцыяй староньнікаў АІК. Аўтары зусім не адрозьніваюць шлях сацыялістычнага разьвіцьця праз умацаваньне калгасаў, праз стопроцантны ахоп калгасаў машына-трактарнымі станцыямі ад шляху разьвіцьця праз АІК як два прынцыпова розных, непрымірымых шляхі. Яны ня могуць зразумець гэтай глыбокай розьніцы, бо МТС у іх разуменьні—гэта паўнейшая падрыхтоўка да АІК, гэта, так сказаць, бяз малага АІК. Яны таму толькі адсоўваюць АІК з другой пяцігодкі ў трэцюю.

„Павінен быць дан рашучы адпор,—піша ў уводным артыкуле тав. Чэлкоў,—тым лявацкім настроям, якія ня ўлічваюць што АІК, як правіла, ёсьць вышэйшая ступень разьвіцьця МТС, і хочуць ужо ў другім пяцігодзьдзі будаўніцтва МТС і саўгасаў падмяніць будаўніцтвам АІК. Патрабуюць ужо стварэньня спэцыяльнага апарату для АІК у раёне і г. д. Другая пяцігодка будзе пяцігодкай будаўніцтва МТС і саўгасаў і іх арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня, а не будаўніцтвам шырокай сеткі агра-індустрыяльных камбінатаў. Але будуючы МТС і саўгасы ў пэрспэктыве ўжо генэральнага пляну і далей, мы прыдзем да моманту, калі камбінаваная індустрыяльная гаспадарка стане асноўнай формай нашых сацыялістычных прадпрыемстваў. Такая тэндэнцыя нашага разьвіцьця“ (вып. I, стар. 27).

Ітак, замест „рашучага адпору“ прыхільнікам АІК, тут у наяўнасьці недапусьцімая спроба ў дапоўненым і спраўленым выданьні прымірыць тэорыю АІК з генэральнай лініяй партыі ў пытаньні аб шляхох сацыялістычнай перапробкі сельскай гаспадаркі.

Карэньні „левых“ памылак аўтараў па пытаньні аб пэрспэктывах разьвіцьця калгасаў у другім пяцігодзьдзі ляжаць у іх неразуменьні асноўных установак, даных XVII партканфэрэнцыяй аб задачах другой пяцігодкі.

Вось як фармулююць аўтары сваё разуменьне гэтых задач:

„Побач з поўным завяршэньнем суцэльнай калектывізацыі мы павінны дасягнуць у другую пяцігодку поўнага абагуленьня жывёлагадоўлі і пабочных галін, якія яшчэ цяпер знаходзяцца ў індывідуальным карыстаньні калгасьнікаў. На аснове паглыбленьня працэсаў абагуленьня і поўнага тэхнічнага пераўзбраеньня сацыялістычнага земляробства мы павінны дабіцца рэзкага павышэньня ўсіх якасных паказчыкаў, ураджайнасьці, удойнасьці, хуткасьпеласьці жывёлы і г. д., павінны дабіцца яшчэ больш высокіх тэмпаў разьвіцьця сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасьці, на аснове завяршэньня працэсу абагуленьня ўсіх галін сельскагаспадарчай вытворчасьці, на аснове ўвядрэньня ў калгасную гаспадарку ў масавым маштабе машын, трактараў, электраматораў, на аснове прамога камбінаваньня сацыялістычнай індустрыі з земляробствам будзе адбывацца працэс поўнай пераробкі ранейшай індывідуалістычнай псыхалёгіі калгасьніка, выжываньня ўсіх яе рэштак, будзе адбывацца працэс пераТварэньня калгасьнікаў у працаўнікоў сацыялістычнага грамадзтва“ (вып. I, стар. 7).

Першы выпуск работы падпісан да друку спусьціўшы цэлы тыдзень пасьля апублікаваньня тэзісаў ЦК партыі па „дырэктывах да складаньня другога пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі СССР“. Асноўная палітычная задача другой пяцігодкі сфармулявана была ў гэтых тэзісах і нарэшце зацьверджана на XVII усесаюзнай партыйнай канфэрэнцыі наступным чынам:

„Канфэрэнцыя лічыць, што асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, параджаючых клясавую розьніцу і эксплёатацыю і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, пераТварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага грамадзтва“.

Супастаўленьне вышэйпаказаных вытрымак з работы Калгаснага інстытуту і з рашэньняў XVII партыйнай канфэрэнцыі выкрывае наступныя рэзкія разыходжаньні:

а) ва ўстаноўках рэцэнзуемай работы Калгаснага інстытуту адсутнічае задача канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул у другую пяцігодку; затое на першае месца высоўваецца задача „поўнага абагуленьня жывёлагадоўлі і пабочных галін, якія яшчэ цяпер знаходзяцца ў індывідуальным карыстаньні калгасьнікаў“;

б) аўтары кнігі выключаюць з задач другой пяцігодкі поўнае зьнішчэньне прычын, параджаючых клясавую розьніцу і эксплёатацыю; мяркуючы па далейшых іх устаноўках, яны лічаць вырашэньне гэтай задачы завершаным яшчэ ў першай пяцігодцы. Але затое высоўваюць задачу „прамога камбінаваньня сацыялістычнай індустрыі з земляробствам“. Толькі вульгарным, абывательскім уяўленьнем аб сутнасьці выжываньня супроцьлегласьці паміж горадам і вёскай можна тлумачыць пастаноўку гэтай задачы ў процівагу чоткім рашэньням партыі.

У рабоце выкрываецца сапраўды абывательскае неразуменьне таго, што сутнасьць выжываньня супроцьлегласьці паміж горадам і вёскай заключаецца не ў адміраньні і запусьценьні адных сельскіх пасяленьняў (вып. 1, стар. 25), і не ў прамым злучэньні меднымі правадамі высокавольтных перадач з прамысловасьцю другіх галін (вып. 1, стар. 160)—

яна заключаецца ў зьняцьці маючыхся між горадам і вёскай у першую чаргу сацыяльных супярэчнасьцяй, уяўляючых сабою спадчыну капіталістычнага спосабу вытворчасьці, у ліквідацыі на гэтай аснове адсталасьці сельскагаспадарчай вытворчасьці і ператварэньня сельскагаспадарчай працы ў разнавіднасьць індустрыяльнай.

Ці не зразумела, што калі ўзяць усе гэтыя ўстаноўкі рэцэнзуемай кнігі Калгаснага Інстытуту ў іх контэксьце, дзе ўсе задачы аж да выжываньня ўсіх рэштказ індывідуалістычнай псыхалёгіі калгасьніка пастаўлены „побач з поўным завяршэньнем суцэльнай калектывізацыі“, стане бясспрэчным, што адбітак вузлавых праблем пяцігодкі і партыйных установак па іх дан тут ня ў „фокусе“, як абяцала дырэкцыя Інстытуту, а ў крывым люстры.

Асноўным мэтадалёгічным грахом аўтараў зьяўляецца недаацэнка імі праблем сацыяльнага парадку пры праектаваньні разьвіцьця МТС на другую пяцігодку, зьвязданьне ўсёй праблемы МТС да арганізацыйна-тэхнічных момантаў, спроба фактычна пераскочыць праз асаблівасьці МТС як асноўнага вагара сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Усё вызначаючым момантам зьяўляецца ў аўтараў спэцыялізацыя. Пры гэтым у плянаваньні спэцыялізацыі, аўтары дапускаюць рад сур'ёзных памылак.

Аўтары забылі, што ўзровень спэцыялізацыі, ці інакш, ступень, глыбіня спэцыялізацыі, якая неабходна ў канкрэтных, даных умовах для пэўнага раёну, пэўнага прадпрыемства, зусім ня можа быць устаноўлена толькі на аснове вывучэньня толькі данага прадпрыемства ці данага раёну, аб'ядноўчага рад прадпрыемстваў. Ступень, узровень падзяленьня аграмаджанай працы паміж прадпрыемствамі і паміж групамі прадпрыемстваў на вытворчасьці розных прадуктаў цясьнейшым чынам залежыць ад агульнага ўзроўня багацьця, дасягнутага сацыялістычным грамадзтвам, ад дасягнутых маштабаў грамадзкага адстанаўленьня і дасягнутага ўзроўню вытворчасьці працы.

Гэтыя агульныя мэтадалёгічныя прадпасылкі зьяўляюцца аднак самымі агульнымі абстрактнымі палажэньнямі, якія застануцца пустым месцам, калі яны ня будуць ужыты і канкрэтызаваны дапасавальна да кожнай асобнай сельскагаспадарчай культуры, ці галіны, да пэўнага адрэзку часу, пэўнага раёну, пэўных прадпрыемстваў.

Праблема спэцыялізацыі вытворчасьці зусім ня можа быць правільна вырашана шляхам мэханістычнага запраэктаваньня і правядзеньня пэўнага ўзроўню спэцыялізацыі ва ўстаноўленым раней напрамку. Неабходны ўзровень спэцыялізацыі для кожнай галіны, данага раёну, прадпрыемства вызначаецца цэлым комплексам умоў сацыяльна-палітычнага і арганізацыйна-тэхнічнага парадку.

Спэцыялізацыя сельскагаспадарчай вытворчасьці ва ўмовах плянавай гаспадаркі ня толькі ня выключае, а наадварот, мяркуе мэтазгоднае яго камбінаваньне як у адносінах асобных культур, так і ў адносінах асобных галін з мэтаю выкарыстаньня найлепшым чынам маючыхся ў нашым распараджэньні матар'яльных фондаў, працоўных рэсурсаў і прыродных умоў пры вытворчасьці неабходнай для народнай гаспадаркі сельскагаспадарчай прадукцыі.

Як-жа інакш можна ўстанаўліваць севазвароты? Ці-ж ня ясна, што адным з рашаючых фактараў далейшага пад'ёму сельскай гаспадаркі зьяўляецца ўстанаўленьне севазваротаў? Ці-ж ня ясна, што „лявацкая“ тэорыя спэцыялізацыі і монакультуры ёсьць адмаўленьне севазваротаў? Зразумела, пры гэтым праблема вядучай культуры ня можа быць зьнята. Толькі на гэтай базе можна дабіцца ўстанаўленьня такіх севазваротаў, якія ідуць ва ўзровень з патрабаваньнямі народнагаспадарчага пляну.

У асобных выпадках канкрэтныя ўмовы вытворчасьці данага віда прадукцыі сапраўды высоўваюць задачу максымальнага ўшчыльненьня пэўнай культуры ў севазвароце ў мэтах найбольшага выкарыстаньня якой-небудзь перавагі, зьвязанай з пэўным тэрытарыяльным вучасткам. Так, напрыклад, вялізарныя затраты, якія неабходна ўтварыць для абвадненьня зямлі пад бавоўну, дыктуюць неабходнасьць найбольш мэтазгоднага выкарыстаньня абвадняемых зямель для пасеваў бавоўны. Але і тут ня можа быць такой голай пастаноўкі пытаньня, што ўсе абвадняемыя землі на 100 проц. павінны засявацца бавоўнай, паколькі гэта ўпіраецца ў аднаўленьне пладародзьдзя глебы даступнымі для нас у даны момант сродкамі. І тут магчыма і неабходна такім чынам злучыць выраб бавоўны з другімі культурамі і галінамі (люцэрна, жывёлагадоўля), якое найлепшым чынам спрыяла-б агульнаму вырашэньню народнагаспадарчых задач на даным этапе з найменшымі затратамі сродкаў.

Тая ці іншая ступень канцэнтрацыі вытворчасьці вядомага віду прадукцыі ў тым ці іншым раёне, у пэўнай групе прадпрыемстваў, а значыць, і ступень спэцыялізацыі данага раёну і даных прадпрыемстваў на вырабе гэтага віда прадукцыі залежыць ад плянавага назначэньня прадукцыі, месца спажываньня і ўмоў транспартаваньня, умоў першачарговай і прамысловай перапрацоўкі і г. д. Пры гэтым надзвычайна важным зьяўляецца, напрыклад тое, што снабжэньне цукровых заводаў буракамі, першачарговых ільнаапрацоўваючых—ільном і г. д., па транспартных умовах павінна ўтварацца прадпрыемствамі, блізка разьмешчанымі да гэтых заводаў. Аднак і тут ступень спэцыялізацыі прадпрыемстваў, заснаваная на вырабе данага віду сыравіны, павінна быць цясьнейшым чынам зьвязана з агратэхнікай увядзеньня гэтых культур, так як— пры пэўным узроўні насычэньня імі севазвароту— выгады, атрыманыя на транспартыроўцы, могуць быць перакрыты стратамі па ўраджайнасьці. З другога боку самыя ўмовы перапрацоўкі сыравіны не зьяўляюцца нязьменнымі; у даным выпадку напрыклад дэкартыкацыя ільну ў палявых умовах ці асушка цукровых буракоў могуць зусім па іншаму ставіць пытаньне аб найбольш аптымальным радыусе іх культываваньня вакол снабжаемых сыравінай заводаў.

Усе гэтыя пытаньні выпалі з поля зроку нашых аўтараў.

Тэарэтычная і практычная каштоўнасьць разьлікаў тыпічнай праектоўкі прадпрыемства ў асноўным заключаецца ня столькі ў канкрэтных паказчыках, атрыманых на прыкладзе таго ці іншага прадпрыемства, колькі ў мэтодыцы іх устанаўленьня, бо разьлікі тыповай праэктыроўкі на прыкладзе канкрэтнага прадпрыемства мэханічна ні на якое другое канкрэтнае прадпрыемства перанесены быць ня могуць. Асноўная задача тыповай праектоўкі

заключаецца ў тым, каб паказаць, якім чынам і чаму павінны быць устаноўлены тыя ці іншыя паказчыкі вытворчага працэсу ў пэўных умовах вытворчасьці. Толькі ў тым выпадку, калі ёсьць зусім чоткае ўяўленьне аб тым, як і чаму запраэтаван той ці іншы паказчык, можна судзіць, наколькі ён тыпічны, пры якіх умовах ён можа быць распаўсюджан на другія канкрэтныя прадпрыемствы ці выкарыстан для абагульненьняў у адносінах той ці іншай галіны сельскагаспадарчай вытворчасьці ці ўсёй сельскай гаспадаркі ў цэлым.

Больш таго, у сельскай гаспадарцы, дзе работа па тыпізацыі вытворчага працэсу знаходзіцца яшчэ пакуль толькі ў зародку і дзе кожнае новае прадпрыемства (у большай ступені, чым у прамысловасьці) носіць на сабе адбітак асаблівасьцяй канкрэтных умоў вытворчасьці, магчымасьці палепшаньня тыповага праекту вельмі аграмадны. Таму зусім зразумела, што ўсякі, хто пажадае пакарыстацца распрацаванымі Калгасным інстытутам вытворчымі тыпамі МТС як узорам для канкрэтнай праэктоўкі прадпрыемства, а тым больш для абагуленьняў адносна сельскагаспадарчай вытворчасьці ў цэлым, у першую чаргу павінен пацікавіцца: якім мэтадам карысталіся аўтары, чым яны кіраваліся, устанаўляючы тое ці іншае зьявішча, той ці іншы паказчык, характарызуючыя вытворчы працэс, тыпічны для МТС у другім пяцігодзьдзі?

Але дарэмна. Досыць дакладнага адказу на гэтыя неабходныя пытаньні аўтары не даюць.

У агульнай главе першага выпуску работы НІК ёсьць спэцыяльны разьдзел пад шырокавяшчальнай шапкай „Мэтадалёгія праектаваньня тыпу МТС". Зьмест гэтага больш чым скромнага па размерах разьдзелу (нямнога больш адной старонкі) у адносінах мэтадалёгіі досыць характарызуецца наступным тэзісам:

„Вядучым зьвяном вызначаючым рысы як прамысловага, так і сельскагаспадарчага прадпрыемства, зьяўляюцца энэргетыка і сыстэма машын. Апошнія павінны быць пакладзены ў галаву вугла ўсіх праэктовак" (стр. 13).

Адразу ўзьнікаюць пытаньні: калі энэргетыка зьяўляецца тым вядучым зьвяном, якое вызначае рысы прадпрыемства, дык чаму адна і тая-ж энэргетыка, напрыклад, электрычная, рысы машынабудаўнічага прадпрыемства вызначае па-аднаму, а тэкстыльнага—на другому, ці напрыклад, трактарная энэргетыка рысы зернавога прадпрыемства вызначае так, а баваўнянага інакш? Тое-ж пытаньне ўзьнікае і ў адносінах сыстэмы машын: калі адна і тая-ж сыстэма машын такім вось чынам вызначыла рысы зернавога прадпрыемства—саўгасу, то чаму-ж яна зусім інакш вызначае рысы таксама зернавога прадпрыемства—калгасу?

Урэшце, ці ня бывае такіх выпадкаў, што выбар таго ці іншага віду энэргетыкі для канкрэтнага прадпрыемства рашаецца ў залежнасьці ад самога тэхналёгічнага працэсу вытворчасьці, так як на пэўным узроўні разьвіцьця вытворчых сіл ня кожны від энэргіі зьяўляецца аднолькава выгадным пры любых умовах (напрыклад, ужываньне электраэнэргіі на розных відах транспарта, у розных відах мэталюргіі, у розных галінах сельскай гаспадаркі і г. д.)

(*Працяг будзе*)

**Міколенка.**

## Усім дырэктарам саўгасаў, МТС, старшыням калгасаў, райкалгассаюзаў і загадчыкам Райза

**Нягледзячы на тое, што часопіс „Шляхі Калектывізацыі" зьяўляецца адзінай масавай часопісьсю ў БССР, якая яскрава асьвятляе шляхі і вопыты лепшых калгасаў і саўгасаў у справе сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі, аднак у шэрагу калгасаў, саўгасаў і МТС зусім адсутнічае падпіска на гэтую часопісь. Рабачкомы саўгасаў, старшыні райкалгассаюзаў, МТС і праўленьні калгасаў нядбайна адносяцца да распаўсюджваньня гэтай часопісі.**

**Наркамзем і Калгасцэнтр БССР прапануюць прыняць рашучыя меры да пашырэньня часопісі сярод рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў. Трэба дабіцца, каб у кожным калгасе, саўгасе і МТС было ня менш 3—5 экз. часопісі „Шляхі калектывізацыі" ў 1933 г.**

**Для гэтага вышэйпамянутыя арганізацыі павінны вылучыць адказных работнікаў па распаўсюджваньні часопісі.**

**Умовы падпіскі на часопісь „Шляхі Калектывізацыі" зьмешчаны ў каталёгу, які маецца ў кожным паштовым аддзяленьні.**

**Наркамземляробства БССР РАЧЫЦКІ.**

**Нам. старшыні калгасцэнтру СТРЭЛЕ.**

**Адказны рэдактар С. МІЦЬКОЎ**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2873 У ліку 2.050 экз. Уп. Галоўлітбелу №а—4